Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 30 кастрычніка 1987 г. № 44 (3402) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## Унумары:



*Да 100-годдзя з дня нараджэння Цішкі Гартнага*



# «Пела бура табе песні...»

Жыццёвая і творчая біяграфія вядомага пісьменніка, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча Цішкі Гартнага (З. Х. Жылуновіча) — цікавая і яркая старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Сын землякопа, з 10 гадоў служыў пастухом, пасля працаваў гарбаром рамесніцкіх майстэрняў, а з 1913 года — рабочым пецярбургскага завода «Вулкан».

Яшчэ юнаком ён уступіў у Капыльскую сацыял-дэмакратычную арганізацыю і прыняў актыўны ўдзел у забастоўках і дэманстрацыях, якія арганізоўвалі сацыял-дэмакраты ў гады першай рускай рэвалюцыі. Дарэчы, і ў гады рэакцыі дзейнасць арганізацыі не спынялася, прытым асноўны цяжар рэвалюцыйнай работы к таму часу ляжаў на плячах маладых сацыял-дэмакратаў на чале з Жылуновічам.

У 1908 годзе Зміцер знаёміцца з газетай «Наша Ніва» і паэзіяй Я. Купалы і Я. Коласа. У хуткім часе ён выпісаў зборнікі вершаў гэтых песняроў «Жалейку» і «Песні-жальбы», якія зрабілі на яго найвялікшае ўражанне. Асабліва плённы творчы ўплыў на паэта-гарбара зрабіла купалаўская паэзія, якая «бунтавала», «надавала бадзёрасці і маладога задзёру». Невыпадкова першы друкаваны верш маладога паэта «Бяздольны» быў прысвечаны Янку Купалу і падпісаны псеўданімам Цішка Гартны. З гэтым псеўданімам Зміцер Жылуновіч стала ўвайшоў у літаратуру. Апрача верша «Бяздольны», у рукапісным зборніку «Скорбная лира» (1908) захаваліся яшчэ два вершы «Хай грае жалейка!» і «Грай нам на жалейцы!», якімі Гартны адгукнуўся на выхад у свет першага зборніка вершаў Купалы «Жалейка».

Пасля беспрацоўе пагнала Гартнага ў вандроўку. У пошуках кавалка хлеба ён скалясіў Беларусь, Літву і Латвію, наведаў Украіну і апынуўся ў Пецярбурзе. Рабочае асяроддзе, у якім ён жыў у час паездак і на пецярбургскім заводзе «Вулкан», пакінула выразны след у яго творчасці. У Пецярбурзе ён выдае свой першы вершаваны зборнік «Песні» (1913), у якім упершыню ў беларускай паэзіі з'яўляецца вобраз рабочага — «рыцара працы цяжкой», які мае «сэрца палкае, як жар» і які хоча сваімі рукамі здабыць «для братоў, для людзей шчасце і долю» («Песні гарбара»).

Праўда, у ранніх вершах паэта знаходзім і смутак і тугу, а часам і роспач, бо маладыя гады яго героя былі ахінуты «хмарай цяжкага гора і бяды». А гэты герой — зямны чалавек, і ён хацеў бы карыстацца ўсімі зямнымі радасцямі:

**Сэрца свету хоча,**
**Яму волі трэба,**
**Песень, шчасця, красак,**
**Шырокага неба.**
**(«Сэрцу волю!..»)**

У творчай дзейнасці Ц. Гартнага пецярбургскі перыяд найбольш плённы. Менавіта ў гэты перыяд ішло станаўленне эстэтычных поглядаў паэта, расло пачуццё адказнасці за лёс свайго народа і радзімы, узмацнялася палітычная вастрыня яго слова.

Як паэт Гартны жыў клопатамі і імкненнямі працоўнага чалавека. Яго сэрца «тачылі... болькі», «што людзям цяжка яго жыць...» Ён адчуў, зразумеў і ўбачыў тыя грамадскія сілы, якія здольны ажыццявіць адвечную мару працоўных Беларусі аб сацыяльным і нацыянальным разняволенні. На чале гэтых грамадскіх сіл стаяў рабочы клас. Ад яго імя гартнаўскі герой смела і рашуча заяўляў:

**Я рабочы — пралетарый —**
**Шчасця й радасці каваль,**
**Поўны сілы, поўны жару...**
**(«Я рабочы — пралетарый»)**

З творамі гэтага напрамку пераклікаюцца і вершы, што друкаваліся ў 1912 — 1913 гг. на старонках бальшавіцкай «Праўды».

Вялікі Кастрычнік Цішка Гартны ўспрыняў як сваю рэвалюцыю і з радасцю вітаў яе. Рэвалюцыя актывізавала творчую і грамадскую дзейнасць паэта. У лютым 1918 г. Гартны прызначаецца галоўным сакратаром Белнацкома і рэдактарам яго друкаванага органа «Дзянніцы» —першай беларускай савецкай газеты на роднай мове. Спачатку аўтарскі актыў газеты быў нешматлікі і недастаткова кваліфікаваны. Гартны пісаў неабходныя матэрыялы сам і забяспечваў выхад нумароў у тэрмін. Ужо ў першым нумары «Дзянніцы», які выйшаў 1

(Заканчэнне на стар. 6).

нізацыі чалавека неабходна гуманізаваць навакольную рэчаіснасць. Можна прыгадаць і Я. Коласа, які пісаў, што шчасце можа быць поўным толькі тады, калі ўсе вакол цябе адчуваюць сябе шчаслівымі... Але, на вялікі жаль, у творчым асяроддзі можна нярэдка наглядаць іншую карціну: скрозь зубы прымаюць поспех свайго калегі і не хаваюць радасці, калі яго напаткала няўдача. Што гэта — выдаткі рэчаіснасці? А можа, што іншае? Безумоўна адно — гэта праявы бездухоўнасці...

У гэтай сувязі хачу звярнуць увагу толькі на адну праблему. Мне здаецца, што многія прычыны сучаснай бездухоўнасці, якая сквавала халодным абручом абыякавасці нашы душы, у тым, што мы занядбалі адзін вельмі важны інстытут у жыцці чалавека—інстытут с я м' і. Як жыве сучасная сям'я? Як мы выхоўваем сваіх дзяцей і наогул — ці выхоўваем?! А можна і так паставіць пытанне: ці заўсёды ў нас ёсць магчымасць д о б р а выхоўваць сваіх дзяцей?.. Мы неяк забылі, што сапраўдная духоўнасць пачынаецца з першай усмешкі немаўляці, з першых яго позіркаў вакол сябе, першых пытанняў і н а ш ы х а д к а з а ў... Вось стварылі Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна. Высакародная справа. Але чамусьці сумна. Колькасць дзіцячых дамоў хутка ўзрастае... Хто ў гэтым вінаваты? Думаю, усе мы. Ра[illegible]. І кожны паасобку. І асаб[illegible]вая віна — мастацтва, літаратуры. У апошнія дзесяцігоддзі яны шмат зрабілі для разбурэння сям'і. Пачытайце сучасныя раманы, аповесці, п'есы, паглядзіце спектаклі, фільмы — ці многа вы там знойдзеце шчаслівых сем'яў?.. Разумею, мастацтва — адлюстроўвае... А што яно імкнецца выхаваць? Якія ідэалы прапаноўвае чытачу, гледачу?!

Роля мастака ў сённяшнім абнаўленні залежыць не толькі ад мастака. Вядома, перш за ўсё — ад самога творцы, яго таленту, грамадзянскай пазіцыі. Але і грамадства сёння павінна больш актыўна ставіцца да праблем творчага жыцця, практычна дапамагаць майстрам творчасці. Вось толькі адзін прыклад з тэатральнага жыцця. Стварылі Маладзёжны [illegible]тр БССР і забыліся пра са[illegible]о «дробязь» — сцэну, праз рампу якой тэатр мог бы весці дыялог з гледачом. У экстрэмальных умовах мы ўмеем дзейнічаць хутка, рашуча, пагаспадарску. А ва ўмовах звычайных? На цэлыя гады расцягнулася эпапея «прапіскі» Маладзёжнага тэатра...

Каб не паўтараць таго, што ўжо слушна выказалі ў лімаўскай анкеце мае папярэднікі, адзначу яшчэ адзін момант. Калі мы сапраўды зацікаўлены ў тым, каб мастацтва ўносіла ўсё больш важкі ўклад у духоўнае аздараўленне грамадства, трэба тэрмінова брацца за вырашэнне самай галоўнай праблемы — праблемы эстэтычнага выхавання моладзі, пачынаючы з дзіцячага сада. Толькі рашучыя захады ў гэтым напрамку дадуць свой плён — эстэтычна адукаванага чытача і гледача, які не будзе абыякавы да сур'ёзнага мастацтва, што вучыць чалавека быць чалавекам, грамадзянінам, патрыётам.

Яшчэ некалькі слоў пра тэатр, мастацтва якога сёння перажывае складаны, я б сказаў, драматычны перыяд пошукаў і эксперыментаў. Мэта ў іх адна — дапамагчы тэатральнаму мастацтву стаць сапраўды Мастацтвам. З вялікай літары! Праўдзівым. Змястоўным. Хвалюючым. Арыгінальным. Яркім. Святочным. Упэўнены, што тэатральныя дзеячы спраўдзяць надзеі, якія ўскладвае на іх наша партыя, наша сацыялістычная дзяржава. Але п е р а м е н ы ў тэатры не адбудуцца самі па сабе, ці па якой-небудзь дырэктыве. Перамены могуць быць толькі ў выніку б а р а ц ь б ы т э а т р а л ь н ы х і д э й (не блытаць з эгаістычнымі амбіцыямі некаторых дзеячаў), напружанай творчай працы. Перафразіруючы Дастаеўскага, можна сказаць: тэатр выратуе праца... Сапраўды, калі ўсе будуць працаваць, то не будзе часу на скаргі, заявы, плёткі і іншыя маральна-псіхалагічныя заганы, што даволі рэльефна вызначыліся ў некаторых творчых калектывах рэспублікі.

Шмат праблем у сучаснага тэатра. І самая балючая з іх — праблема в я р т а н н я г л е д а ч а ў тэатральныя залы. Глядач—трэці творца спектакля. А самае галоўнае — дзеля яго існуе тэатр. А яго сёння часта не хапае ў глядзельнай зале. Гэта не проста праблема, гэта — бяда. Хто тут дапаможа? Вядома, с а м тэатр. Але і грамадства не павінна быць староннім назіральнікам...

Перачытаў свае адказы... Адчуваю, не вельмі святочныя атрымаліся — пра гультайства, пра дэфіцыт чалавечнасці, пра бяду сучаснай сям'і і сучаснага тэатра... Але нічога не зробіш, у каго што баліць...

**Рычард СМОЛЬСКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

## УСЕ КНІГІ—У ГОСЦІ

**Кожны, хто прыйдзе ў гэтыя дні ў выставачную залу мінскага Дома кнігі, абавязкова знойдзе для сябе штосьці цікавае. 28 кастрычніка тут адкрылася Усесаюзная кніжная выстаўка, прысвечаная 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. У экспазіцыі прадстаўлена каля дзвюх тысяч твораў, выпушчаных цэнтральнымі і рэспубліканскімі выдавецтвамі за апошнія гады.**

**Віднае месца займаюць кнігі, выдадзеныя да юбілею, творы класікаў марксізму-ленінізму. Шырока прадстаўлена навукова-тэхнічная літаратура, даведнікі, падручнікі, энцыклапедычныя выданні. Мастацкая літаратура і публіцыстыка, кнігі па мастацтве, аб прыродзе і спорце, фотаальбомы — з усім гэтым можна пазнаёміцца на выстаўцы.**

**У адкрыцці выстаўкі прыняў удзел сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў.**

**БЕЛТА.**

## ВЫКОНВАЎСЯ ЎПЕРШЫНЮ

**Канцэртную залу Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі запоўнілі выкладчыкі, студэнты, аматары музыкі. Такую павышаную цікавасць выклікала незвычайная праграма канцэрта. Выпускнік Маскоўскай кансерваторыі *імя П. І.* Чайкоўскага (клас прафесара Т. Нікалаевай) лаўрэат Усесаюзнага конкурсу піяніст Антон Батагоў выконваў цыкл класіка сучаснай французскай музыкі Аліўе Месіяна «Дваццаць поглядаў на аблічча дзіцяці Ісуса».**

**Гэты цыкл, напісаны ў 1944 годзе, актуальны і сёння, калі над чалавецтвам навісла небяспека спусташальнай вайны. Мовай музыкі кампазітар (дарэчы, у наступным годзе яму будзе 80 гадоў) гаворыць пра веліч і прыгажосць чалавека, пра унікальнасць яго жыцця на зямлі, пра непарыўнае адзінства чалавека з прыродай. Ідэя вялікай любові да чалавека — *галоўная тэма гэтага буйна*маштабнага твора, які гучыць больш за дзве гадзіны.**

**Трэба сказаць, што выканаўца глыбока адчуў стыль і музычную мову кампазітара і перадаў найтанчэйшыя нюансы твора. Дзякуючы Антону Батагову мінчане пазнаёміліся з адметным фартэпіянным цыклам, які ўпершыню выконваўся ў нашай краіне цалкам.**

**Л. МАТУКОЎСКАЯ,**
**педагог БДК.**

НА ТЭМУ ДНЯ

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**першы сакратар праўлення СП БССР**

# АДКАЗНЫ МОМАНТ

Як ВЯДОМА, на чэрвеньскі Пленум ЦК КПСС было вынесена пытанне аб карэннай перабудове кіравання эканомікай, але гаворка на ім ішла і аб ходзе перабудовы ў цэлым. Перабудовы, якая з'яўляецца рэвалюцыйнай і якая набірае ўсё больш сілы, ахопліваючы ўсё новыя і новыя сферы, заглыбляючыся ва ўсе пласты грамадскага жыцця. На апошняй сустрэчы з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і творчых саюзаў М. С. Гарбачоў падкрэсліў: «...сёння наступае самы, можа быць, адказны момант. Цяпер трэба ўсё ўвасобіць у жыццё. А гэта значыць, што мільёны, дзесяткі мільёнаў людзей будуць удзельнічаць у велізарнейшай справе. Гэта ж сапраўдная рэвалюцыя, у тым ліку — у розумах, у мысленні, у падыходах да справы. А, як вядома, Ленін папярэджваў, што з рэвалюцыяй жартаваць нельга, нельга гуляць у рэвалюцыю. Калі ўжо мы ўзяліся за яе, то трэба весці справу па-сапраўднаму, з велізарным пачуццём адказнасці і разумення таго, што прамаруджванне ў рэалізацыі цяпер ужо вырашаных пытанняў — пэўных, выпрацаваных нашай праграмай перабудовы — смерці падобна».

Вось наколькі ўсё гэта сур'ёзна: «прамаруджванне — смерці падобна».

«Таму, — гаварыў далей М. С. Гарбачоў, — для нас галоўнае цяпер — дзейнічаць, і дзейнічаць энергічна і мэтанакіравана; шукаць рэзервы, крытыкаваць промахі, недахопы і разам з тым падтрымліваць новае, канструктыўнае; развіваць актыўнасць, ініцыятыву, паглыбляць дэмакратыю і публічнасць, гэта значыць тое, што ўмацоўвае атмасферу перабудовы, садзейнічае паскарэнню нашага сацыяльна - эканамічнага развіцця; весці пошук новых форм работы, якія развівалі б усё больш шырокі ўдзел народа, мільёнаў працоўных. У гэтым сацыяльна - палітычная сутнасць цяперашняга этапу перабудовы».

Значыць — дзейнічаць, шукаць рэзервы, крытыкаваць недахопы, развіваць актыўнасць, паглыбляць дэмакратыю і галоснасць, і — падкрэсліваю — **весці пошук новых форм работы.** І пры гэтым — усе разлікі на чалавека, якога, гаворачы словамі тав. Гарбачова, трэба «разбудзіць па-сапраўднаму»... і «выкарыстаць яго багаты палітычны, культурны, навуковы патэнцыял, які набыты ў нашым грамадстве за гады Савецкай улады».

Так, поспех наш на любым участку сацыялістычнага будаўніцтва залежыць ад канкрэтных людзей — ад іх розуму і сумлення, ад іх творчых здольнасцей, ад меры пачуцця адказнасці, свайго чалавечага і грамадзянскага абавязку перад калектывам, членам якога з'яўляемся, перад народам, перад усёй краінай.

У нашым выпадку — і перад літаратурай. І перад родным словам, якое для пісьменніка тое самае, што і яго народ, яго Бацькаўшчына.

**За перыяд пасля апошняга, IX з'езда пісьменнікаў Беларусі адбыліся істотныя перамены ў кадравым складзе адказных супрацоўнікаў саюза і яго падраздзяленняў. Не пабаюся сказаць, што ўсе гэтыя перамены былі на карысць справы і забяспечылі відочнае паляпшэнне жыццядзейнасці ўсіх арганізацыйна-творчых і адміністрацыйна-гаспадарчых вузлоў. Гэтыя перамены ёсць добрая аснова, на якую можна абаперціся пры вырашэнні нашых творчых пытанняў, вырашаць якія аднак жа будзем мы ўсё-такі самі. Ні секцыі, ні камісіі, ні саветы, ні праўленні не будуць дзейнічаць паспяхова і на поўную сілу, калі гэтага не хочуць самі пісьменнікі, члены секцый. Аб рабоце ўсіх гэтых нашых грамадскіх аб'яднанняў адназначна не скажаш. Адны працуюць лепш, другія — горш, трэція — амаль зусім спынілі сваё існаванне, як то кажуць — лічацца толькі на паперы. І самае сумнае, што нават і ў гэтым апошнім выпадку такое зацішша мала каго турбуе, дакладней — нікога не турбуе. Можна, маўляў, жыць і так — без удзелу у грамадска-творчым жыцці, у калектыўным абмеркаванні новых твораў або жыццёва важных пытанняў развіцця літаратуры, культуры, наогул нашай сацыялістычнай духоўнасці. Можна, вядома, жыць усяк, але ж мы ведаем, чым пісьменнік плаціць за адыход ад грамадскай актыўнасці, за спакой і цішу ўнутры ўласнай шкарлупіны. Паставім пытанне так: ці можам мы быць задаволены сённяшняй сітуацыяй у нашых секцыях, камісіях, саветах і праўленнях, маштабамі і формамі іх дзейнасці? Ці не дыктуе час нам, каб на сёе-тое зірнуць іншымі вачыма, каб звыклую практыку істотна і рашуча перайначыць? Калі так — дык давайце думаць разам, усе; адзін сакратарыят ці нават прэзідыум заменіць вопыт і розум усіх не можа, а справа далейшага развіцця беларускай літаратуры — справа наша агульная, усіхная.**

**Нягледзячы на тое, што ў нас адбываецца вельмі многа розных літаратурных падзей і гэтак званых мерапрыемстваў — сустрэч, вечароў, паездак, пасяджэнняў, «круглых сталоў» і т. п., — я застаюся пры думцы, што непасрэдна творчых размоў, прычым размоў актуальных, вострых, надзённых у нас яшчэ вядзецца малавата. Калі мы не збіраемся і не абмяркоўваем на сваіх сходах розныя сацыяльныя, палітычныя, экалагічныя, маральныя і само сабой — нашы прафесіянальныя, літаратурныя *праблемы* —значыць, яны нас не цікавяць? Ці, можа, мы ўсё яшчэ баімся адкрыта, уголас пра гэтыя праблемы гаварыць? Як жа ў такім разе мы думаем разварушыць грамадскую думку, стварыць патрэбны настрой? Як думаем мабілізаваць здаровыя творчыя сілы, энергію сумлення?**

Адным з нашых найпершых і галоўных клопатаў быў, ёсць і будзе клопат пра творчы аўтарытэт беларускай літаратуры і грамадскі аўтарытэт беларускага пісьменніка, нашай пісьменніцкай арганізацыі. Што да апошняга, то не сакрэт: наш грамадскі аўтарытэт доўгі час паступова падаў, паніжаўся. Умовы застойнага перыяду былі спрыяльныя ды і самі мы нямала «пастараліся». Перш за ўсё слабай грамадскай актыўнасцю, абыякавасцю да вострых жыццёвых праблем, бестурботнасцю і безыніцыятыўнасцю. Мне расказвалі вельмі паважныя людзі, што нават у зале Вярхоўнага Савета рэспублікі пачалі ўжо ставіцца да выступленняў нашых пісьменнікаў-дэпутатаў без асаблівай павагі і нават іранічна — маўляў, не будзе ні значных і смелых думак, ні вострых пытанняў, а будзе пафасная дэкламацыя прапісных ісцін, рытарства, слухаць якое проста не цікава. І сапраўды: хіба мы можам успомніць хоць адно выступленне пісьменніка - дэпутата ці члена высокага партыйнага камітэта, каб яно выклікала шырокі грамадскі рэзананс, стала імпульсам для нейкай важнай грамадскай ініцыятывы? Не было такіх выступленняў. І гэта крыўдна.

Гэта датычыць і многіх нашых выступленняў на звычайных сустрэчах з чытачамі. Тут усім нам ёсць над чым моцна прызадумацца. Што можна і трэба зрабіць, каб падняць і пастаянна павышаць грамадскі аўтарытэт пісьменніка, чый голас, чыё слова павінна многа значыць для нашых людзей, нашых сучаснікаў? Адказ нібыта просты: перш за ўсё трэба дбаць пра вышыню аўтарытэту творчага, пра ідэйна - мастацкую якасць новых кніг. Гэта — галоўнае. Разам з тым — трэба перастаць самім займацца прыніжэннем таго лепшага, што ў нашай літаратуры ёсць і паяўляецца сёння. На пленуме СП БССР ужо гаварылася, што агульнае абвінавачванне яе ў правінцыялізме, у павятова-хутарской абмежаванасці і адсталасці не мае пад сабой падстаў. Калі ёсць канкрэтныя творы, якія не адпавядаюць духу і патрабаванням часу, — дык трэба канкрэтна пра іх і гаварыць, а не ўчыняць «вселенскую смазь» усёй літаратуры. Бо нешта незразумелае атрымліваецца. З кожным годам усё ўзрастае попыт на нашу сучасную літаратуру ў вялікім чытацкім свеце, у Саюзе і за мяжой, усё больш кніг перакладаецца на іншыя мовы і ім даюцца высокія ацэнкі. Толькі што гэта засведчылі і ўдзельнікі міжнароднага семінара перакладчыкаў беларускай літаратуры. На інтэрнацыянальным вечары ў Доме літаратара пра міжнародны аўтарытэт нашай літаратуры вядомы ў свеце славіст Вацлаў Жыдліцкі гаварыў такое, што ад пачуцця гордасці за наша мастацкае слова камяк падступаў да горла. Таму часам дзіўна чытаць, што мы самі пішам пра нашу сучасную літаратуру. Ну, скажам, вось такія пасажы: «Мы падменьвалі мастацкае пісьмо дыпламатычным і ўсё рабілі дзеля таго, каб яму, без'языкаму пісьму, не сустрэлася ніякай перашкоды». «Мы, сучасныя мастакі, не *стварылі такіх* эмацыянальна-горкіх старонак, бо мы баяліся шчыра пісаць «для сябе», мы заўсёды дыпламатычна пісалі «для народа». «Наша творчасць нагадвае неруш векавечнай дрыгвы, якую не здолее асушыць і самая заўзятая *меліярацыя». «...чытачу стала* непатрэбнай наша літаратура. Шырокі пакупнік абыходзіць паліцы з нашымі кнігамі, і дарма заклікаць яго да нацыянальнай свядомасці». Дапускаю, што паважаны мною паэт Л. Дранько-Майсюк наўмысна *завастрае праблему,* каб па-добраму раздражніць сваіх калег, беларускіх пісьменнікаў, абудзіць у іх творчую злосць. Можа, і так, можа, але ж словы сказаны няслушныя, бо — пра ўсю літаратуру, пра ўсіх пісьменнікаў і іх творчасць агулам. І не бяруць беларускіх кніг пакупнікі, аказваецца, не таму, што ўжо колькі пакаленняў чытачоў не могуць ці не хочуць чытаць па-беларуску, а таму, што беларускія пісьменнікі не па-майстэрску і няшчыра, дыпламатычна пішуць. Перабіраю ў памяці імёны тых, што працуюць (або зусім нядаўна працавалі) у беларускай літаратуры: Мележ, Быкаў, Брыль, Крапіва, Куляшоў, Пысін, Чарнышэвіч, Лупсякоў, Панчанка, Танк, Гаўрусёў, Макаль, Вярцінскі, Сіпакоў, Барадулін, Бураўкін, Бічэль-Загнетава, Васілевіч, Кудравец, Адамчык, Пташнікаў, Чыгрынаў, Дудараў, Янішчыц — спынюся, хаця спісак можна значна прадоўжыць. Няўжо ўся іх творчасць падыходзіць пад такую ацэнку? «А ён мае права на сваю думку!» — чую голас нібыта ў абарону дэмакратыі і публічнасці. Бясспрэчна, мае! У кожнага з нас — сваё разуменне і ўяўленне, свой мастацкі густ, свая культура, свой характар, свае адносіны да свету рэчаіснасці, у тым ліку і да літаратуры, у якой ты працуеш. Іншая рэч — якая выказваецца думка, ці справядлівая?

(Заканчэнне на стар. 4).

# Адказны момант

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).

У перадавым артыкуле тэарэтычнага і палітычнага часопіса ЦК КПСС «Коммунист» (№ 15 за гэты год) гаворыцца: «Заўсёды, усюды і ва ўсе часы былі людзі, якія працавалі шчыра, сумленна, з поўным усведамленнем сваёй мастакоўскай і сацыяльнай адказнасці. Як былі, зразумела, і тыя, хто выкарыстоўваў свае здольнасці і таленты дзеля найблізкай выгады, атрымання званняў і пасад, ахвотна ўслугоўваючы ўсяму, што мае сілу».

Несумненна, што і праўда і справядлівасць — вось у такім поглядзе на стан рэчаў у галіне мастацкай літаратуры, а не ў агульным ахайванні і нігілістычным закрэсліванні духоўных набыткаў нацыі.

**Увогуле, мы прапускаем міма ўвагі і не рэагуем на спробы прынізіць на старонках рэспубліканскага друку нашу літаратуру, хаця такія спробы ідуць у разрэз з палітыкай партыі, з партыйным стаўленнем да мастацкай творчасці, да нацыянальнай культуры. Так, месяцы тры назад у газеце «Знамя юности» з «крытычнымі нататкамі» аб сучаснай беларускай літаратуры выступіў чытач Мікола Шаляговіч. Яго нататкі суб'ектывісцкія і досыць сумбурныя, блытаныя, але за ўсім сумбурам выразна праступае пэўная пазіцыя. Нашу літаратуру ён увесь час называе не беларускай, а «белорусскоязычной», — як быццам ёсць яшчэ нейкая беларуская іншамоўная, «иноязычная» літаратура. Пра «белорусскоязычных» паэтаў і пісьменнікаў Шаляговіч піша як пра ворагаў таленавітай маладой літаратуры, якую ён называе «срединной» і якая хоча вырвацца з тэматычнай і ідэйнай абмежаванасці. З якой канкрэтна? З нацыянальна-патрыятычнай тэматыкі і нацыянальна-патрыятычнага ідэйнага ўзроўню. Чытаем: «авторы, которые работают... в национально-патриотической теме, сейчас, как говорится, «на коне» — они и редакторы издательств и журналов, они и удостоены званий и премий. Они — литературную власть республики предержащие». «Но что делается в республике?! Творчество А. Рязанова, отмеченное как значительное в Москве, Риге, Вильнюсе, Тбилиси, творчество его последователей не только по возможности всячески игнорируется, замалчивается, но и при каждом, даже неудобном случае, оскорбляется». «Действуют они по принципу: «не пущать!..» Так і напісана — чорным па беламу: усе ў СП БССР кіруюцца адным прынцыпам — не пушчаць!.. Такія наплецены небыліцы, такія сапраўды абразлівыя для нашай літаратуры і пісьменніцкай арганізацыі выдумкі. А мы маўчым, хаця ведаем, што ніхто ў нас паэта Алеся Разанава і не заціскае, і не абражае, калегі да яго ставяцца з павагай, ён рэгулярна выступае ў друку, выдае кнігі, актыўна працуе як перакладчык... Чаму ж ніхто з паэтаў і крытыкаў не даў водпаведзь гэтай спробе адкалоць Разанава ад сям'і пабрацімаў, выдаць яго за нейкага пакутніка? І наогул — не даў ацэнку гэтай публікацыі, у якой іранічна-высакамерна гаворыцца аб нацыянальна-патрыятычнай тэме ў беларускай літаратуры? І не спыталі мы ў маладзёжнай газеты, а што яна проціпаставіць нацыянальна-патрыятычным матывам у літаратуры? Антынацыянальныя і антыпатрыятычныя? Дык ужо і так дасягнулі ў гэтым антыпатрыятычным кірунку, мякка кажучы, прыкметных поспехаў!.. Хочацца думаць, што выхаванне архараўцаў і не помнячых свайго роду-племені Іванаў не з'яўляецца праграмнай установкай камсамольскай газеты. Сказана ж з самай высокай трыбуны: дэмакратызацыя і галоснасць — не анархія і не ўсёдазволенасць. Чытач — ён вельмі розны: разумны і не зусім, сціплы і нахабны, сумленны і подлы, культурны і цынічны і г. д. Цяпер многія хочуць скарыстаць сітуацыю, каб задаволіць свае непамерныя эгаістычныя амбіцыі, заявіць пра сябе, вылезці наперад — хаця б і за кошт адступлення ад маральных прынцыпаў і ідэалаў грамадства, за кошт апдявання ўсіх і ўсяго.**

Яшчэ адзін прыклад таго, калі мы маўчым там, дзе маўчаць нельга. У апошні час у друку вядуцца спрэчкі наконт асвятлення пэўных перыядаў, этапаў і эпізодаў нашай айчыннай гісторыі, — спрэчкі, якія закранаюць і пытанні метадалогіі, навуковых прынцыпаў і падыходаў да асвятлення далёкага і не так далёкага мінулага. Надзвычай важная і актуальная сёння праблема, асабліва, бадай, для Беларусі, дзе справа гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці працоўных — у вялікім запушчэнні, мабыць, большым, чым у любой рэспубліцы Саюза. Між тым, усе мы выдатна разумеем, што клопаты пра выхаванне патрыятызму — рэч зусім марная, калі яны не будуць клопатамі пра выхаванне ў шырокіх масах народа, асабліва ў моладзі, гэтай самай гістарычнай самасвядомасці. Нядаўна на старонках газеты «Известия» мы прачыталі наступныя, вельмі ўражлівыя радкі:

«Надо сказать прямо: удар, нанесенный исторической науке, его последствия можно сравнить с теми бедами, которые принесла нашей экономике лысенковщина. Некоторые академики от общественных наук принесли обществу не меньше вреда, чем те, кто сокрушал в свое время генетику».

Некаторыя беларускія гісторыкі лічаць, відавочна, што сказанае пра гістарычную навуку ў краіне — беларускай гістарыяграфіі не датычыць. Нават слабыя спробы зірнуць на гісторыю Беларусі хоць трохі па-новаму, як і спробы крытыкі ў іх адрас, яны сустракаюць, што называецца, у штыкі і, больш таго, мяркуючы па некаторых рэспубліканскіх выданнях, пераходзяць у франтальны наступ. А што ж мы, пісьменнікі, — як мы рэагуем на гэта? Што гаворым у адказ? Дзе наша агульная грамадская думка? Чаму мы аператыўна не рэагуем — на сходах і ў сваім пісьменніцкім друку — на іх выступленні? Чаму мы чытаем іх і маўчым?

Сакратарыят наладзіў на сваім пасяджэнні абмеркаванне творчасці пісьменнікаў гістарычнай тэмы — трохі раней У. Арлова, а нядаўна — К. Тарасава, — што дало мажлівасць сказаць і пра стан гістарычнай навукі ў Беларусі, але — у самым агульным плане і ў вузкім коле; а трэба — каб і канкрэтна, падрабязна, і — з удзелам шырокага прадстаўніцтва пісьменнікаў, крытыкаў, навукоўцаў — людзей і дасведчаных, і нераўнадушных да таго, якой падаецца на свет наша гісторыя. Дык дзе ж наша ініцыятыва? Няўжо не ясна, што трэба збірацца і гаварыць? Што, іначай, наша маўчанне прыдае сілы і ўпэўненасці рэтраградам ад гістарыяграфіі і ўмацоўвае іх закаснелыя дагматычныя пазіцыі?

Хацеў бы, нарэшце, выказаць некаторыя канкрэтныя меркаванні і прапановы па ўдасканаленні работы творчых секцый нашага саюза, яго камісій, яго падраздзяленняў з іх грамадскімі саветамі і праўленнямі. Скажу адразу, што я загадзя адкідаю як непрымальныя і проста несур'ёзныя скептычныя заявы накшталт: а навошта нам гэтыя секцыі ці камісіі наогул? Усё адно, маўляў, ніхто не хоча на іх пасяджэнні хадзіць, ніхто не хоча, каб там яго творы слухалі, як і не хоча абмяркоўваць там іншыя пытанні. Ці так гэта — што ніхто не хоча? А можа, усё-такі ў многіх такое жаданне абудзілася б, але мы, г. зн. кіраўнікі секцый і камісій, проста не ўмеем наладзіць работу, зрабіць яе цікавай?

Нядаўна газета «Московский литератор» паведаміла, што адбылося пасяджэнне Савета па нарысе, публіцыстыцы і дакументальнай прозе Маскоўскага аддзялення СП РСФСР, на якім вельмі актыўна было абмеркавана такое антыбюракратычнае пытанне: «Как мы пришли к тому, что нам надо снова возрождать гласность?» Дык вось, скептыкам я хачу сказаць: пастаўце на пасяджэнне секцыі нарыса і публіцыстыкі пытанне накшталт гэтага, разашліце пісьменнікам запрашэнні — і тады мы пабачым, прыйдуць яны на яго абмеркаванне ці не.

На маю думку, творчая секцыя, г. зн. жанравае аб'яднанне пісьменнікаў, — форма ўдала знойдзеная, яна апраўдвае сябе там, дзе ў кіраўнічае бюро секцыі ўваходзяць энергічныя, сур'ёзныя, надзеленыя пачуццём адказнасці за давер таварышаў і сяброў людзі. Вядома, трэба падумаць, як падняць вышэй аўтарытэт секцыі і яе бюро. Адным з такіх рычагоў можа быць істотнае павышэнне ролі секцыі ў справе прыёму ў Саюз пісьменнікаў. Увогуле наконт прыёму ў саюз хачу падкрэсліць наступнае: трэба, каб бюро секцый больш уважліва і клапатліва ставіліся да лёсу таленавітых маладых людзей. Дагэтуль нярэдка як было? Ёсць у каго з маладых майстар-апякун — і яго кандыдатура разглядаецца на секцыі і праходзіць. А няма — то можа і гадамі не разглядацца, паколькі сам малады, па выхаванасці і прыроднай сціпласці, заявы ў саюз не падае. Але ж апякун павінен быць адзін — клопат пра літаратуру, пра таленты, якія здольны яе ўзбагаціць. Вазьміце, для прыкладу, лёс некаторых нашых крытыкаў. Калі мы сустракаем пад артыкулам прозвішча Міколы Ермаловіча ці, скажам, Анатоля Сідарэвіча — мы адразу ж хапаемся чытаць, мы ведаем, што гэта будзе, па-першае — прафесійна, а па-другое — цікава, бо — самастойна, востра, выкліча на спрэчку, на роздум. Яны даўно прысутнічаюць у нашай крытыцы, у нашай літаратуры, і іх прысутнасць — досыць адчувальная, прыкметная, на іх звяртаюць увагу, да іх голасу прыслухоўваюцца, пра іх публікацыі абавязкова гавораць. Дык чаму ж яны дагэтуль не з'яўляюцца членамі нашага саюза? Ах, таварыш Ермаловіч не нясе заявы? А ён сам ніколі яе не прынясе — калі нават яму дасць бог і да ста гадоў дажыць. За што ж мы крыўдзім сваёй няўвагай таленавітых калегаў?

Вельмі запушчаны ў нас участак работы — ушанаванне памяці пісьменнікаў, выдання і прапаганды творчай спадчыны. І гэта пры ўсім тым, што мемарыяльная камісія СП працуе бадай больш актыўна за ўсе іншыя камісіі. Трэба абследаваць, у якім стане знаходзяцца магілы пісьменнікаў — ці не запушчаны, ці не трэба паставіць неабходныя помнікі? У якім стане былыя сядзібы — родныя гнёзды пісьменнікаў, мемарыяльныя дошкі і іншыя памятныя знакі. Ці ўсюды яны ёсць і дзе іх трэба паставіць. Дзе, у якіх гарадах трэба мець помнікі вялікім дзеячам нашай культуры, дзе трэба назваць вуліцы і плошчы іх імёнамі. У нас гэта ўсё нават яшчэ належным чынам не вывучана, як-то кажуць, не ўзята ўсё на ўлік. Само сабой — не прадумана пытанне аб збіранні і публікацыі творчай спадчыны многіх і многіх пісьменнікаў, аб вяртанні некаторых імён у гісторыю літаратуры і іх твораў чытачам, як гэта было нядаўна зроблена нарэшце ў дачыненні да Алеся Гаруна.

Падобная праблема наспела ў нас і ў справе літаратурных узаемасувязей з іншымі рэспублікамі і краінамі. З кожным годам аб'ём гэтай работы нарастае — работы вельмі важнай і ў культурным і ў палітычным плане, ігнараваць яе мы ні ў якім разе не можам, а сіл на яе практычна часам проста не хапае, фізічных сіл. У некаторых іншых рэспубліках (Украіна, Узбекістан, Арменія) ёсць спецыяльныя замежныя камісіі ў штаце апарату СП, хоць невялікія. Ці дадуць нам для гэтага хоць 1—2 штатныя адзінкі — не ведаю, раздзьмуванне штатаў цяпер зусім не ў модзе — усё наадварот. Значыць, трэба шукаць іншыя, унутраныя рэзервы.

Напярэдадні пэўнай рэарганізацыі і абнаўлення форм работы знаходзіцца наша Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Дзейнасць Усесаюзнага бюро і праблемы, якія ўзніклі ў гэтай арганізацыі, былі не так даўно разгледжаны на сакратарыяце СП СССР; сакратарыят прыняў адпаведную пастанову, якая, натуральна, датычыць і нашага бюро і выкананне якой патрабуе значнай перабудовы, у многім іншага, новага падыходу і разумення задач па прапагандзе літаратуры. Асноўны сэнс гэтых перамен у тым, каб падняць ідэалагічны і мастацкі ўзровень прапаганды, каб падпарадкаваць усю гэту работу справе маральнага і эстэтычнага выхавання працоўных, і, груба кажучы, каб перасталі глядзець на Бюро прапаганды як перш за ўсё на лёгкі спосаб паправіць сваё матэрыяльнае становішча. Формы работы па прапагандзе літаратуры, зведзеныя сёння да трох-чатырох, могуць і павінны быць непараўнальна больш разнастайныя.

Асобнае, вялікае і вельмі важнае пытанне — наша супрацоўніцтва з выдавецтвамі, нашы абавязкі і нашы правы ў гэтых адносінах. Ну, правоў, скажам шчыра, амаль ніякіх, апрача права прасіць, хадайнічаць, пісаць чалабітныя і абмяркоўваць выдавецкія планы. Рэальныя правы былі б тады, калі б у нас было сваё выдавецтва «Савецкі пісьменнік» — як на Украіне і ў некаторых іншых рэспубліках. Асабіста я перакананы, што ўтварэнне такога выдавецтва — справа ва ўсіх адносінах разумная, мэтазгодная і наспелая, для яе вырашэння наступіў самы час. Рашаецца яна проста і ўжо знаёмым, правераным спосабам: трэба пакінуць за выдавецтвам «Мастацкая літаратура» выданне класікі, перавыданні, пераклады, а рэдакцыі новай арыгінальнай літаратуры ўсіх жанраў аддзяліць і з іх стварыць пісьменніцкае выдавецтва — так, як гэта ёсць у Маскве, дзе «Художественная литература» выданнем новых арыгінальных твораў амаль не займаецца, а «Советский писатель» амаль не выдае выбраных твораў. Наколькі лягчэй і эфектыўней было б Саюзу пісьменнікаў уплываць на літаратурны працэс — для карысці справы!..

Але пакуль дойдзе да вырашэння гэтага пытання аб выдавецтве «Савецкі пісьменнік», хацеў бы выказаць адно пажаданне, адну параду нашым сябрам — кіраўнікам існуючых выдавецтваў. Я не ведаю, як яны ажыццяўляюць ідэі перабудовы ў сваёй сферы, але вельмі добра было б, каб іменна беларускія выдавецтвы паказалі прыклад гэтай перабудовы і знайшлі спосаб арганізаваць справу так, каб рукапісы новых, таленавітых кніг ішлі ў набор «зялёнай вуліцай» і своечасова — не праз 2—3 гады, а праз 3—6 месяцаў—паступалі ў кнігарню. Ну, няўжо гэта нельга зрабіць — пры ўсёй жорсткасці сістэмы планавання? Упэўнены, што можна. Цвёрды план пакінуць за класікай, за перавыданнямі—за тым, што можна прадугледзець наперад і што дае асноўныя грошы выдавецтву. Што ж да новых арыгінальных кніг — тут трэба радыкальна і рашуча спрасціць іх дарогу ад рукапіса да чытача.

Два-тры словы пра нашы выданні — органы СП БССР. Як удасканаліць работу іх калектываў і рэдкалегій, работу з аўтарамі, каб забяспечыць выданню больш высокі ідэйна-мастацкі ўзровень, зрабіць яго больш змястоўным, больш цікавым, больш сучасным? Пакуль што, на вялікі жаль, дух перабудовы на старонках нашых пісьменніцкіх выданняў адчуваецца слаба. Чаму так доўга мы раскачваемся, у чым тут загваздка, дзе прычыны такой нашай непаваротлівасці і заспакоенасці — адказаць не проста. Адно ясна, што калі праз колькі дзесяткаў гадоў нашчадкі пагартаюць нашы часопісы за 1987 год — яны не скажуць: так, у гэты год абазначыўся рэзкі, рашучы пералом у поглядах на жыццё і літаратуру, у разуменні задач, што стаяць перад пісьменнікам, у падыходзе да многіх тэм, у выбары праблематыкі, у самой танальнасці пісьма. Не скажуць, што ў гэты год пачаліся інтэнсіўныя ідэйна - маральныя пошукі, адпаведна ім — стылёвыя, пошукі, якія б адпавядалі духу перабудовы, часу рэвалюцыйных перамен.

Вельмі сур'ёзна стаіць сёння пытанне аб рабоце з літаратурнай моладдзю. Вядома, што наогул моладзь ніколі раней не задавала столькі клопату грамадству, як цяпер, у наш час. У значнай меры гэта датычыць і творчай моладзі, і нашы пачаткоўцы — тут не выключэнне. Мы хочам, каб да іх як мага хутчэй прыходзіла грамадзянская і літаратурная сталасць, сацыяльная, ідэйная і маральная спеласць. Як ім дапамагчы ў гэтым? Ці ўсё мы, старэйшыя, робім для гэтага? Ці не мог бы больш рабіць у гэтых адносінах наш Савет ветэранаў вайны і працы — праз вечары-ўспаміны, праз сардэчныя, шчырыя гутаркі з пісьменніцкай моладдзю на самыя розныя тэмы з жыцця краіны і нашай літаратурнай гісторыі? Саюз пісьменнікаў узяў пад сваё крыло сталічнае аб'яднанне ці таварыства маладых літаратараў, у якіх—поўна ўсякіх задум і планаў; яны збіраюцца на сходку, на абмеркаванне творчасці сваіх сяброў і іншых спраў, — але амаль ніякай цікавасці да іх з боку старэйшых, нават у камісіі па рабоце з маладымі, пад чыёй непасрэднай апекай таварыства знаходзіцца. Гэта нікуды не варта. Сёння пытанне работы з моладдзю — ключавое, і падключыцца да гэтай работы — найпершы абавязак кожнага старэйшага, вопытнага літаратара. Менавіта таму гэта пытанне і разглядалася на нядаўнім пасяджэнні прэзідыума СП БССР.

У нас пачынае выходзіць новы грамадска - палітычны і літаратурна - мастацкі часопіс для моладзі на дзвюх мовах — «Крыніца» («Родник»). Ясна, што з першых сваіх крокаў ён павінен стаць баявой трыбунай беларускай камсамоліі ў цэлым і маладой беларускай літаратуры ў прыватнасці. Трэба, каб ён адразу набраў добрую, належную вышыню, загучаў і прывабіў маладых чытачоў рэспублікі ды і ўсёй краіны.

Клопатаў у нас, літаратараў, як бачым,—вельмі многа. А дзе іх сёння — зададзім сабе ж пытанне — менш? Няма такой мясціны і такога калектыву ў краіне, дзе б не адчувалася вялікай занепакоенасці поступам перабудовы. Бясклапотнага жыцця не стала — або хутка не стане там, дзе яно яшчэ назіраецца. У пісьменнікаў яго не павінна быць ніколі. У сапраўдных пісьменнікаў. Бясклапотны пісьменнік — нонсенс, бяссэнсіца, абсурд. Ісціна старая — як гэты свет, але з тых, што патрабуюць, каб іх паўтаралі.

◆ ЧЫТАЧ СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ...

## ТУГА ПА ЗЯЛЁНАЙ ВУЛІЦЫ

У кожнага з нас, мінчан, свой Мінск, горад былых руін і сённяшніх сонечных праспектаў. Ён бесперапынна расце, і на месцы драўляных, аджыўшых свой век будынкаў узнімаюцца шматпавярховыя гмахі. І вось калі мы складваем рэчы і пераязджаем у новыя кватэры, хочацца памянуць добрым словам нашы старыя дамы і вуліцы, дзе жылі бацькі, якіх ужо няма, дзе адбыліся падзеі, якія ўжо ніколі не паўторацца, дзе кожны метр зямлі, кожнае дрэва нясе ў сабе памяць аб людзях, з якімі сутыкнула цябе жыццё.

У гэтым кароткім лісце я закрану толькі адну праблему, якая тычыцца Кастрычніцкага раёна, часткі Мінска, прыкладна акрэсленай Магілёўскай вуліцай, вуліцамі Чкалава, Аэрадромнай і веткай чыгункі. Разам з успамінамі дзяцінства і юнацтва прыходзяць на памяць ціністыя, нібы садовыя алеі, вуліцы, якія стваралі атмасферу душэўнага спакою, забудаваныя аднапавярховымі дамамі (дарэчы, частка іх ужо знесена, а другую чакае тая ж доля). Слонімская і Уфімская, Пензенская і Грамадская вуліцы. Каштаны, ліпы, бярозы і сады, сады, сады... Вясной квітнела ўсё наваколле.

Наступіў час зносу старых дамоў. Што ж, горад расце, шматпавярховыя гмахі наступаюць на колішнія амаль вясковыя ўскраіны. Але трэба ўлічваць не толькі тое, што мы набываем пры зносе, але і тое, што страчваем.

Давайце сядзем у чацвёрты нумар аўтобуса і праедзем некалькі прыпынкаў уздоўж вуліцы Жукоўскага. Цяпер гэта вуліца падзяляе раён на дзве паловы — старую і новую. Вось вам і відавочная розніца: па адзін бок — сады, па другі — славутыя бетонныя «даляглядь». Можна бясконца доўга спрачацца аб якасці аднолькава-панельнай архітэктуры, але гаворка зараз не пра яе. Сярод новых дамоў захавалася толькі мізэрная колькасць той разнастайнай зелені, што была тут раней (ды й то быццам па недаглядзе). Кожнае дрэва, кожны куст быў узрошчаны тут рукамі былых жыхароў. Няўжо ім яны былі больш патрэбны, чым нам? Кволыя дрэўцы, што саджаюць навасёлы на вывернутай пры будаўніцтве гліне, прымаюцца цяжка. Колькі ж спатрэбіцца часу, настойлівасці і сродкаў, каб хоць неяк ажывіць гулкія і пустыя двары?! Здаецца, што нікога, а ў першую чаргу праектантаў і будаўнікоў, гэта пытанне не датычыцца.

Астатняя «зялёная» палова нашага раёна яшчэ стаіць. Які лёс мы ёй угатуем?

**П. БАЯНКОЎ,**
**інжынер.**

г. Мінск.

◆ ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ...

## МАЎЧЫЦЬ ГАРМОНІК...

Дарагая рэдакцыя! Звяртаюся да вас за дапамогай.

З малады гадоў іграю на гармоніку. І вось мой «аматарскі» (саматужнай вытворчасці) гармонік, адслужыўшы мне больш за 30 гадоў, замоўк. Трэба замяніць акорд. У горадзе такі рамонт зрабіць не могуць. Замяняюць і настройваюць толькі адзінкавыя галаснікі-«пішчыкі» (са спісаных гармонікаў).

Я звярнуўся з просьбай да дырэктараў фабрык музінструментаў: Шуйскай, Тульскай, Маладзечанскай. З Маладзечна адказалі так: «Заказаў не прымаем», запчасткі не высылаем». Астатнія фабрыкі ўвогуле маўчаць. А гармонік — прыгажун, лёгкі вагою і ў рабоце. Я прывык да яго, не магу выкінуць яго на сметнік. Ды і навошта, калі з новым акордам ён паслужыць мне спраўна да канца маіх дзён.

Я магу купіць новы гармонік. Але мне дарагі мой. Вельмі прашу паспрыяць, каб таварышы з Маладзечанскай фабрыкі музінструментаў выслалі мне накладной платай акорд (Г-25х25-IV-I). Можна з рэгістрамі, можна і без рэгістраў, толькі чатырохгалосы. Добра было б ад новай мадэлі гармоніка «Нарач». Можа, у парадку выключэння, як ветэрану і інваліду Вялікай Айчыннай вайны.

А заадно хачу праз газету паставіць такое пытанне. Чаму не прадаюцца свабодна запчасткі (акорды) да мехавых язычковых музінструментаў (гармонікаў, баянаў, акардэонаў)? Чаму ніводная фабрыка ў Саюзе не прымае заказаў на рамонт гэтых інструментаў? Яшчэ ж прыгодныя інструменты, а з-за адсутнасці акордаў ці галасавых планак выкідаюцца на сметнік. Гэта марнатраўства.

**А. СУЛЕЦКІ.**

г. Віцебск.

◆ ЗВЯРТАЕ ЎВАГУ...

## ЧАМУ НЯМА ПОПЫТУ?

Вярнуўся з вандроўкі па кнігарнях Маладзечна і Вілейкі. Калі ў Маладзечне я знайшоў нямала дзіцячых кніжак, якія з прыемнасцю будуць гартаць і дзеці Новай Вільні («Стары конь», «Жыў на свеце дзівак»), дык у Вілейцы карціна сумная. Пра адзін слоўнік там нават не чулі, дзіцячых кніжак няма, беларускія кнігі ў абедзвюх кнігарнях стаяць у тры рады, прычым у апошнім радзе схаваны навінкі. Знайшоў там «Кар'ер» Быкава. Папытаўся пра «Знак бяды» — гэта быў бы прыемны сюрпрыз для наведвальнікаў Нававіленскай кнігарні. Прадаўшчыца адказала, што гэтай кнігі яны наогул не атрымлівалі і адарыла мяне кампліментам, што я — першы пакупнік, які цікавіцца беларускай літаратурай. Быць першым заўсёды прыемна, але і адказна. Я ўдакладніў, колькі ж год яна працуе ў кніжным гандлі, на што атрымаў адказ: «Ужо восем!» — «Тады вы памыляецеся, бо я пяты ўжо раз у вашай кнігарні».

Наогул, інфармацыя ў вашых кнігарнях, як неаднойчы пераконваўся, надта слабая. У нас кнігарні штомесяц атрымліваюць спіс кніг кожнага выдавецтва, што выходзяць з вытворчасці ў наступным месяцы. Прадаўцам застаецца толькі пазначыць, калі яны паступілі.

Варта ўпарадкаваць і выкладку кніг на паліцах, выдаць каталогі старых выданняў, бо прадаўцы не адрозніваюць скарбаў ад кніг выпадковых.

І вось на што яшчэ варта звярнуць увагу. У адной з вілейскіх кнігарняў ёсць даволі вялікі аддзел скупленай літаратуры. Некалькі гадоў назад я знаходзіў там вельмі патрэбныя выданні, у тым ліку і Лукаша Калюгу, і кнігі Л. Арабей пра Цётку, і М. Гарэцкага на рускай мове, і «Лісткі календара» М. Танка. На гэты раз у аддзеле — нічога беларускага. Не скупляюць, бо кажуць, няма попыту. Гэтым самым перакрэсліваецца абарот усяго вартаснага, што было надрукавана на беларускай мове. Як пераарыентаваць гандляроў? Можа, варта пры выданні каталога беларускіх кніг адзначыць усё вартае, што выйшла за 1945—1985 гады, пазначыць, што варта скупляць, за што можна запрапанаваць двайны ці трайны намінал? Праца гэтая карпатлівая, але неабходная. Тады мо і попыт будзе.

**Валдас БАНАЙЦІС,**
**урач.**

г. Н. Вільня.

◆ ДЗЕЛІЦЦА НАВІНОЙ...

## У ГОНАР ПЕРШАДРУКАРА

Хачу падзяліцца з чытачамі «ЛіМа» прыемнай весткаю. Я звярнуўся ў адпаведныя інстанцыі з пісьмом, у якім пісаў, што Міністэрства фінансаў СССР выпусціла больш за 20 розных памятных рублёў, прысвечаных вялікім А. Пушкіна, Д. Мендзялеева, Юрыя Гагарына, Івана Фёдарава, Барадзінскай бітвы і г. д. І гэта вельмі добра. Я прапанаваў, каб Міністэрства фінансаў і Дзяржзнак СССР выпусцілі ў зварот памятны рубель, прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны. Не так даўно я атрымаў ліст з Міністэрства фінансаў СССР, падпісаны намеснікам начальніка Дзяржзнака А. І. Мусатавым:

**«Галоўнае ўпраўленне Дзяржзнака Мінфіна СССР паведамляе, што Ваша прапанова аб выпуску ў 1990 годзе памятнай манеты вартасцю 1 рубель, прысвечанай 500-годдзю Францыска Скарыны, будзе ўстаноўленым парадкам вынесена на разгляд пры фарміраванні тэматычнага плана на наступныя гады».**

**Я. СЯРОЖКІН,**
**рабочы.**

г. Орша.

◆ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ...

## СУМНЫ ЮБІЛЕЙ

**Ёсць юбілеі вялікія, меншыя і малыя. Ёсць і такія, што праходзяць незаўважна, не пакінуўшы следу ў свядомасці людзей. Пра адзін такі і хачу нагадаць.**

**12 лістапада 1982 г. у «Літаратуры і мастацтве» пад назвай «Альпіністы штурмуюць помнік» быў змешчаны ліст А. Чысцякова. У публікацыі ішла гаворка пра выкарыстанне будынка былога касцёла ў вёсцы Плябань пад Маладзечнам у якасці «скальнага стадыёна». Аўтар акцэнтаваў увагу на тым, што стары касцёл цікавы не толькі як помнік архітэктуры, але і мае гістарычнае значэнне: пад час паўстання 1863—1864 гг. у ім знаходзіўся склад зброі паўстанцаў; «побач на могілках пахаваны ўдзельнікі паўстання, якія загінулі ў няроўным баі з карнымі войскамі каля маёнтка Свечкі».**

**Тады ж Мінскі аблвыканком паведаміў, што ва ўпраўленні культуры *«распрацоўваецца перспектыўны план рамонту, рэстаўрацыі і выкарыстання помнікаў архітэктуры на 1981—1985 гг., дзе будуць улічаны ўсе нявыкарыстаныя помнікі вобласці, у тым ліку касцёл вёскі Плябань».***

**17 лістапада 1985 г. мне самому «пашчасціла» сустрэць каля касцёла «альпіністаў», якія праводзілі трэніроўку на яго сценах. Гэты выпадак змусіў мяне да напісання ліста ў «ЛіМ», які і быў надрукаваны ў штотыднёвіку за 4 красавіка 1986 г. пад назвай «Тры гады абяцанняў». «Альпіністамі» аказаліся члены секцыі горнага турызму пры Беларускім тэхналагічным інстытуце. Зрэшты, што вінаваціць гэтых хлопцаў і дзяўчат, калі яны прыстасавалі для заняткаў любімым відам спорту «безгаспадарчую» будыніну? Ці ж маглі яны ведаць пра існаванне пастановы № 25 Мінскага аблвыканкома ад 17 сакавіка 1981 г.? Пры непасрэднай сустрэчы з горнымі турыстамі на пасяджэнні секцыі высветлілася, што і іх у пэўнай меры цікавіць пытанне захавання спадчыны, і многія з іх згодны былі прыкласці свае рукі да таго ж плябанскага касцёла.**

**Аднак і другая публікацыя ў «ЛіМе» нічога не дала.**

**А між тым маладыя архітэктары В. Глінпік і Г. Левіна «самапасам» узяліся за стварэнне праекта рэстаўрацыі былога касцёла ў вёсцы Плябань. Была выканана эскізная яго частка, у якой прапаноўвалася стварэнне мемарыяльнага комплексу — касцёл, будынак плябаніі і брацкая магіла паўстанцаў на могілках. Па папярэдніх падліках архітэктараў уся (!) праекціровачная і вытворчая праца — ад першага штрыха на ватмане да апошняй рыдлёўкі пяску на добраўпарадкаванні тэрыторыі — магла б каштаваць толькі 27 тыс. рублёў. Пры выкарыстанні добраахвотнай дапамогі, накшталт прапановы членаў секцыі горнага турызму БТІ, гэта сума магла б быць і яшчэ меншай.**

**Варта таксама сказаць, што энтузіястамі-добраахвотнікамі пачалося добраўпарадкаванне брацкай магілы паўстанцаў на плябанскіх старых могілках. Думаецца, што з дапамогай Маладзечанскага раённага таварыства аховы помнікаў удасца давесці гэтую справу да ладу. Але архітэктурны помнік рукамі адных энтузіястаў не здужаць: трэба і будаўнічыя матэрыялы, і механізмы, і праца кваліфікаваных спецыялістаў, ды і гаспадар будынку патрэбны.**

**Хацелася б ведаць, як сябе пачувае «перспектыўны план рамонту, рэстаўрацыі і выкарыстання помнікаў архітэктуры вобласці на 1981—1985 гг.», што распрацоўваўся ва ўпраўленні культуры Мінскага аблвыканкома? Ці памятае хто ў тым жа аблвыканкоме пра пастанову № 25 ад 17 сакавіка 1981 г.? Што сказаць хлопцам і дзяўчатам з секцыі горнага турызму БТІ, якіх цікавіла: чаму тыя «салідныя дзядзькі», што «ганялі» іх некалі з плябанскага касцёла, ужо пяць гадоў не парупяцца пра яго стан?**

**Паважаная рэдакцыя, можа, для пачатку адзначыць пяцігоддзе з дня публікацыі ў штотыднёвіку матэрыялу пра стан плябанскага касцёла? 12 ж лістапада не за гарамі.**

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**начальнік аддзела археалагічных даследаванняў Спецыялізаванага навукова-рэстаўрацыйнага вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя».**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## ЦІ КАЛЕКТЫЎ ВІНАВАТЫ?

**Апошнім часам, як ніколі раней, рэспубліканская прэса надае вялікую ўвагу становішчу ў Гомельскім абласным драматычным тэатры. Наўрад ці ёсць патрэба нагадваць, што пісаў Р. Ярохін у «Советской Белоруссии», Т. Арлова і Г. Колас — у «ЛіМе», альбо што казаў М. Яроменка ў інтэрв'ю часопісу «Коммунист Белоруссии»... Коратка змест публікацый можна падсумаваць так — тэатральная грамадскасць б'е трывогу.**

**Сцвярджаюць, што кожны калектыў варты свайго кіраўніка. Але хіба вінаваты калектыў, калі яму прызначаюць кіраўнікоў, прытым выпадковых, якія па асабістых і прафесійных якасцях не маюць права на лідэрства? Хіба вінаваты калектыў, калі галоўны рэжысёр запрашае ў тэатр сваіх сяброў і «выбівае» для іх кватэры — у той час, як тыя, хто паспяхова працуе 5, 7, 9 і больш гадоў, на «птушыных правах» жывуць у інтэрнатах? Хіба калектыў вінаваты, што тэатр ліхаманіць ад шматлікіх праверак і рэвізій самых розных органаў, у тым ліку і АБРСУ?..**

**Выносіць «смецце з хаты» — не самы прыемны занятак. Але галоўны рэжысёр тэатра Г. Прымак вельмі часта гаворыць нам пра сумленне і чэснасць, а на справе пастаянна пагарджае гэтымі прынцыпамі.**

**Што тычыцца ўласна творчасці, дык са з'яўленнем новага галоўнага паняцці «добра» і «дрэнна» дзіўным чынам пераблыталіся, і нярэдка зусім кепскія спектаклі выдаюцца ледзь не за ўзор сучаснага тэатральнага мастацтва. Усе творчыя пытанні вырашаюцца па капрызу Г. Прымака. Пазбаўлены магчымасці працаваць рэжысёр В. Бартосік — і ніхто не нясе адказнасці за прастой здольнага мастака. Па віне кіраўніцтва тэатра не мае нармальных умоў для працы і другі рэжысёр — Я. Натапаў, спектаклі якога карыстаюцца глядацкай увагаю і высока ацэнены тэатральнай крытыкай. Хіба не бестактоўнасць і знявага — пазбавіць нас, удзельнікаў спектакля «Спартыўныя сцэны 1981 года», большасцю галасоў ухваленага мастацкім саветам, свята прэм'еры?**

**Я працаваў з Г. Прымаком у двух спектаклях і ўсё больш пераконваюся, што ён не валодае метадалогіяй работы з акцёрамі. Рэпетыцыі з прычыны рэжысёрскай бездапаможнасці ператвараюцца ў скандалы, якія спусташаюць артыстаў. Г. Прымак абяшчае адно, а робіць нешта зусім процілеглае; прымае паставу «непрызнанага генія», а, па сутнасці, руйнуе тэатр.**

**15 кастрычніка адбыўся сход творчага калектыву тэатра, на якім прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры рэспублікі, Саюза тэатральных дзеячаў, абкома і гаркома КПБ. Я прапанаваў выказаць недавер галоўнаму рэжысёру. Прапанову падтрымалі многія мае калегі, але канчатковага рашэння і на гэты раз вырашылі не прымаць...**

**Звяртаючыся ў газету «Літаратура і мастацтва», хачу асабліва падкрэсліць наступнае. Вось ужо чатыры гады мы адчуваем нейкі незразумелы фармалізм у стаўленні адпаведных інстанцый да прызначэння кіраўнікоў нашага тэатра. Між тым, нявырашанасць галоўнай кадравай праблемы вядзе за сабой усе астатнія беды. І нельга змагацца з вынікамі, не выкараніўшы прычыну. Мяркую, наспеў час канкрэтна дапамагчы нам, а не абмяжоўвацца кабінетнымі размовамі.**

**А. РУБЦОЎ,**
**акцёр Гомельскага абласнога драматычнага тэатра.**

г. Гомель.

*АД РЭДАКЦЫІ. Замест каментарыю мы вырашылі працытаваць адну са сваіх нядаўніх публікацый, а менавіта, вытрымку з адказаў кандыдата мастацтвазнаўства Т. Арловай на анкету «ЛіМа», прысвечаную пачатку новага тэатральнага сезона: «Спатрэбілася пяць выездаў камісій у Гомель, крытычныя выступленні ў «ЛіМе», «Гомельскай праўдзе», «Советской Белоруссии», каб даказаць галоўнаму рэжысёру Г. Прымаку яго мастацкую бездапаможнасць і абараняць правы зняважаных ім творчых работнікаў... Ці варты такі «ўпарты чалавек» тых матэрыяльных і маральных выдаткаў, у якія ён нас уцягнуў?»*

*Сапраўды, ці варты? Калі ўлічыць, што і выездаў камісій ужо не пяць, і крытычных выступленняў у друку пабольшала...*

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Цішкі Гартнага

# «Пела бура табе песні...»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

сакавіка 1918 г., Гартны заклікаў рабочых і сялян Беларусі да ўзброенага адпору нямецкім захопнікам. Гэты артыкул быццам быў адказам на заклік Леніна, Камуністычнай партыі «Сацыялістычная Айчына ў небяспецы».

Інтэрнацыяналісцкія пазіцыі Гартнага выяўляліся ў артыкулах, у якіх падкрэслівалася імкненне беларусаў да адзінства з рускім народам, гаварылася пра неабходнасць саюза Беларускай Савецкай Рэспублікі з РСФСР, прапагандаваліся ідэі Савецкай улады. У мэтах вызвалення Беларусі з-пад нямецкай акупацыі Гартны заклікаў беларусаў да разгортвання партызанскай і падпольнай барацьбы.

У шэрагу вострых памфлетаў, сатырычных вершаў, фельетонаў Гартны выкрываў беларускіх радаўцаў, іх палітычнае крэда. У фельетоне «Беларусы», у байцы «Рак, Заяц і Варонка» аўтар з'едліва высмейвае халопскую пакорлівасць скірмунтаў, алексюкоў, варонкаў і ім падобных перад нямецкім імперыялізмам. За гэта яны называлі Гартнага «здраднікам беларускай справе», «беларускім бальшавіком».

У гэты ж самы час кіраўніцтва Паўночна-Заходняй вобласці, якое недаацэньвала нацыянальнае пытанне, не ішло на кантакты з Белнацкомам, а яго друкаваны орган «Дзянніцу» незаслужана шальмавала, абвінавачваючы яе ў нацыяналшавінізме. Зразумела, што гэта балюча кранала нацыянальныя пачуцці такіх людзей, як Гартны, якія былі адданы Савецкай уладзе і заваёвам сацыялістычнай рэвалюцыі.

У кастрычніку 1918 года Прэсненскі райком партыі Масквы прымае Гартнага ў члены РКП (б). У лістападзе 1918 г. у Маскве была створана Беларуская секцыя РКП (б) і выбрана яе бюро, у склад якога ўвайшоў і Гартны.

Партыя бальшавікоў рэкамендавала кандыдатуру пісьменніка на пасаду старшыні першага Савецкага ўрада Беларусі. На І з'ездзе Кампартыі Беларусі Гартны быў выбраны ў склад ЦБ КП(б)Б. Аднак адразу на пасяджэннях ЦБ пры арганізацыйным афармленні і стварэнні БССР паміж Гартным і членамі ЦБ па некаторых пытаннях узніклі спрэчкі, якія вынікалі з нявопытнасці і Гартнага і яго апанентаў. Разам з гэтым у смаленскіх таварышаў на чале з А. Мясніковым часам не хапала вытрымкі, цярпення і аб'ектыўнасці ў вырашэнні спрэчных пытанняў. З думкамі Гартнага, які настойліва абараняў ленінскую палітыку па нацыянальна-дзяржаўнаму будаўніцтву, кіраўнікі Паўночна-Заходняга абкома не лічыліся (нагадаем, што яго дзелавыя спрэчкі з імі пазней несправядліва пачалі кваліфікаваць як «супрацiўленне бальшавіцкім мерапрыемствам пры канструяванні савецкага ўрада Беларусі» і як дзеянні «злоснага нацыяналіста»).

У пачатку 1921 г. Гартны вярнуўся з Заходняга фронту, прыехаў у Мінск і актыўна ўключыўся ў дзяржаўнае і культурнае будаўніцтва рэспублікі, працуючы на адказных пасадах.

Ён першы з беларускіх паэтаў адлюстраваў велічныя і бурлівыя падзеі Кастрычніка, услявіў героіку і пафас барацьбы, небывалы энтузіязм стваральнай працы савецкага чалавека. Яго радаваў і захапляў грандыёзны размах аднаўленчых работ у нашай краіне:

**То не вецер у пушчы гудзе,**
**То не хвалі на моры**
**бушуюць —**
**То грамады працоўных людзей**
**Сабе лепшую долю будуюць.**
**(«Будаванне»).**

Творчыя пошукі Ц. Гартнага ў прозе былі падпарадкаваны таму, каб стварыць праўдзівы вобраз новага чалавека. У свой час вялікай папулярнасцю ў чытачоў карыстаўся раман «Сокі цаліны» (1914 — 1929), у якім паказаны шляхі фарміравання характару рабочага-рэвалюцыянера Рыгора Нязвычнага, дадзены карціны заводскіх падзей, узняты глыбінныя працэсы народнага жыцця. Вобраз камуніста-рэўкомаўца Платона Гічкі створаны ў апавяданні «Больш за ўсіх». Герой вылучаецца сваёй настойлівасцю ў дасягненні мэты, сваёй адданасцю справе рэвалюцыі. Асабістыя інтарэсы ён падпарадкоўваў грамадскім. У зборніках апавяданняў «Трэскі на хвалях» і «Прысады» пададзена цэлая галерэя вобразаў новых савецкіх людзей, у асноўным вясковых актывістаў: Андрэя Камля і Плахі, Герасіма і Несцера Грэбеняў, Астапа і інш. Вобраз чалавека актыўнай жыццёвай пазіцыі Якава Гузіка створаны ў апавяданні «Гаспадар».

Пісьменнік паспрабаваў свае творчыя сілы і ў драматургіі. У свой час на сцэне БДТ з поспехам ішла яго драма «Сацыялістка». Драма «Хвалі жыцця», п'есы «На стыку» і «Дзве сілы» ставіліся ў гуртках мастацкай самадзейнасці.

У перыядычным друку Гартны выступаў таксама з працамі манаграфічнага характару, з літаратурнымі аглядамі і крытыка-біяграфічнымі нарысамі. Да такіх артыкулаў належаць «Янка Купала», «Пушкін і Вяземскі» і інш. У пачатку 30-х гадоў пісьменнік вывучаў творчасць Адама Міцкевіча і яго сувязі з рускай і беларускай літаратурамі, нейкі час працаваў у Інбелкульце. Адначасова быў членам калегіі Гістпарта, а ў лістападзе 1923 года Прэзідыум ЦБ КП(б)Б зацвердзіў новы склад Гістпарта на чале з Жылуновічам-Гартным. Гістпарт ЦК КП(б)Б пад яго кіраўніцтвам збіраў і сістэматызаваў матэрыялы і дакументы па гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйным руху ў Беларусі. У 20-я гады Гартны-гісторык напісаў і апублікаваў шэраг артыкулаў пра барацьбу за Кастрычнік у Беларусі. Многія падзеі і факты, пра якія ён пісаў, асвятляліся ўпершыню і пры адсутнасці неабходных архіўных дакументаў і беднасці фактычнага матэрыялу, пры недастатковым веданні і выкарыстанні ленінскай тэарэтычнай спадчыны. У такіх умовах даводзілася карыстацца асабістымі ўспамінамі, супастаўляць часам супярэчлівыя факты і рабіць адпаведныя вывады. Навуковай жа падрыхтоўкі Гартны не меў. І таму пры асвятленні асобных гістарычных фактаў і праблем ён несвядома дапускаў некаторыя памылкі і недакладнасці. Праўда, сам прызнаваў іх і даваў ім самакрытычную ацэнку.

У гэты самы час асобныя памылковыя, а часткова і няўдалыя фармуліроўкі ў працах літаратараў ці гісторыкаў вульгарызатары і дагматыкі выкарыстоўвалі як зручны момант, каб узвесці паклёп на таго ці іншага добрасумленнага працаўніка. Паспешлівыя, неабгрунтаваныя ацэнкі нярэдка прыводзілі да адміністрацыйных і іншых санкцый. Нешта падобнае здарылася ў перыяд так званай «тэатральнай дыскусіі» 1928 года, за ўдзел у якой Цішку Гартнаму было абвешчана партыйнае спагнанне.

На жаль, склалася так, што сёння мы забыліся на шмат якія старонкі біяграфіі вядомага літаратурнага дзеяча. Напрыклад, у сувязі з 15-годдзем творчай дзейнасці Ц. Гартнага Наркамасветы БССР прадставіў і 31 снежня 1923 года пленум ЦБ КП(б)Б пастанавіў: «прысвоіць тав. Жылуновічу званне народнага паэта Беларусі». Аднак адпаведнай урадавай пастановы так і не з'явілася. Відавочна, што для гэтага былі пэўныя прычыны, але якія? Гэта застанецца загадкай. Аднак неўзабаве, у чэрвені 1924-га, Жылуновіч быў выключаны з партыі на 1 год «за адарванасць ад мас і абывацельскую псіхалогію». Ён абвінавачваўся ў тым, што ўдзельнічаў у пахаванні з царкоўнымі ўшанаваннямі свайго швагра і... прыстойна адзяваўся (звычайна ён хадзіў у капелюшы, з гальштукам).

Гартнага абвінавачвалі ў многіх грахах і ў большасці несправядліва. Тэндэнцыйнае і абсурднае, напрыклад, сцвярджэнне, што ён, Гартны, «увесь час арыентаваўся на буржуазны захад у процівагу Саюзу ССР, хваліў буржуазную культуру...» Аднак уся літаратурная спадчына Гартнага, у тым ліку і яго публіцыстычная дзейнасць, абвяргаюць такое абвінавачванне.

Паўстагоддзя мінула са дня смерці Цішкі Гартнага, але толькі цяпер ён усведамляецца намі ва ўсёй глыбіні і разнастайнасці яго таленту, з усімі яго ўзлётамі, памылкамі і сумненнямі. Мы яшчэ і сёння вельмі мала ведаем Гартнага-публіцыста. З першых дзён Савецкай улады і да канца 20-х гадоў ім напісана некалькі соцень публіцыстычных твораў разнастайных у жанравых (артыкулы, нарысы, фельетоны, агляды, рэцэнзіі) і тэматычных адносінах. Гартнаўскія артыкулы і сёння ўяўляюць сабой страсны публіцыстычны і філасофскі рэпартаж пра той час. У іх знойдзеш багаты матэрыял для асвятлення гісторыі нашага народа і краіны ў 20-я і першай палове 30-х гадоў. Яны чакаюць свайго даследчыка. Наогул варта зазначыць, што як мастацкія, так і публіцыстычныя творы Ц. Гартнага — жывое сведчанне нашай эпохі.

Жыццё пісьменніка абарвалася ў росквіце яго творчых сіл. Ён загінуў у гады парушэння дэмакратыі і законнасці, не дажыўшы нават да 50-ці гадоў. Але як бы ні ставіўся да Гартнага лёс, мужнасць ніколі не пакідала яго. Незадоўга перад смерцю ён напісаў радкі шчырай сыноўскай любві і адданасці свайму народу і Радзіме:

**Табе, савецкая Радзіма,**
**Я працу і душу аддаю...**

І ёсць нешта знамянальнае ў тым, што 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага сына беларускага народа Цішкі Гартнага — стойкага барацьбіта за Савецкую ўладу і сацыялістычную Айчыну — супала са слаўным 70-годдзем Вялікага Кастрычніка. Міжволі згадваюцца радкі Янкі Купалы з верша, прысвечанага Цішку Гартнаму:

**Пела бура табе песні,**
**Думкі бурныя будзіла.**

**Аляксей КЛАЧКО,**
**кандыдат**
**філалагічных навук.**
г. Мінск.

# Дзве сустрэчы

НЕ ДУМАЮ, што мае асабістыя сустрэчы з Цішкам Гартным маюць якое-небудзь значэнне, ды не так і многа іх было. Што магло быць агульнага ў дваццацігадовага ці крыху больш «маладнякоўца», які робіць першыя крокі ў літаратуры, і ў масцітага пісьменніка і дзеяча дзяржаўнага маштабу, на дваццаць гадоў старэйшага за мяне? У студэнта першага курса універсітэта і акадэміка, вучонага? Не падзяляю я і такой «канцэпцыі», што, маўляў, чалавек пазнаецца ў няшчасці і, перакруціўшы гэтую пагаворку ў дапасаванні да Цішкі Гартнага, мудрагелiста высноўваюць, што калі чалавек атулены арэолам славы, дык ён трымае сябе як бог, недасяжна і непрыступна, а калі ён скінуты з прастолу, развенчаны, дык ён становіцца чалавекам, падобным на самога сябе.

Вы сустракаліся з рабочым чалавекам, які доўгія гады свайго жыцця правёў за варштатам ці ля станка? Ён негаваркі. Машына, праца ля станка не любяць гаваркіх. Вось гэтыя засяроджанасць, разважлівасць, задуменнасць і нетаропкасць у размовах — якасці не толькі дадзеныя прыродай чалавеку, яго непаўторнай індывідуальнасці, гэта яшчэ і жыццёвы і прафесійны набытак. Вось гэтыя асабістыя якасці ў поўнай меры былі ўласцівы і Цішку Гартнаму. І гаворка яго пасавала да нетаропкай разважнасці і дакладнасці думкі, выказанай ёмка і лаканічна. Невысокага росту, каржакаваты, як кажуць, зграбна скроены, заўсёды акуратна апрануты ў замежную вопратку (жыў жа ў той Нямеччыне больш як год!), у капелюшы, у круглых акулярах, белым глянцавым каўнерыкам і гальштукам, як тады было модна, «матыльком», ён сапраўды меў выгляд у поўнай меры інтэлектуальны, выгляд вучонага або дзеяча неабыякога маштабу. Але адметная рыса, якая многіх насцярожвала, — гэта адсутнасць мімікі на твары. Акруглы твар яго з праніклівымі ўдумлівымі вачамі з-пад круглых акуляраў быў нерухомым. І толькі зазірнуўшы ў яго праніклівыя, удумлівыя вочы, пачуўшы яго роўны голас з капыльскім «пранонсам» (усе капыляне гавораць крыху ў нос), адчуеш добразычлівасць і цеплыню мудрага і добрага чалавека, які ведае, што азначае мудрасць жыцця.

А дабраце яго душы, уважлівасці да маладых пачынаючых літаратараў многія маладнякоўцы, хто пачынаў першыя крокі, хто выдаваў першую кнігу, абавязаны былі, як і я, і захавалі на ўсё жыццё памяць аб гэтых сустрэчах.

Адну з такіх сустрэч хачу прыгадаць і я, праўда, не ў

# «Час дарма не прападзе...»

### Лісты Цішкі Гартнага да М. Мароза

*Эпісталярная спадчына Цішкі Гартнага невялікая: некалькі паштовак у «Нашу Ніву», некалькі пісьмаў — выпадковым адрасатам, пісьмы з Берліна і некалькі пісьмаў на рускай мове да Клейнбарта Л. М.*

*Найбольш цікавыя з іх — пісьмы з Берліна. У канцы 1921 г. Ц. Гартны быў накіраваны туды для наладжвання друкавання беларускіх кніжак. З Берліна ён пiша М. І. Марозу, упаўнаважанаму беларускага прадстаўніцтва ў Маскве. Прапануем іх увазе чытачоў «ЛіМа».*

*Пісьмы падрыхтавала да друку і прынесла ў рэдакцыю незадоўга да сваёй смерці дачка Ц. Гартнага Г. Жылуновіч.*

*Арыгіналы іх захоўваюцца ў архіве.*

●

Братка Міхаська!

Твае лісты ад 31/X і 1/XI дастаў і нясказна ім рад. Рад таму вельмі, што вы ў Маскве ўзяліся за выдавецкую справу. Кніжка, кніжка і кніжка. На ёй трымаецца культура, а на культуры — усё іншае. А як пагляджу на выдавецкую справу немцаў, дык ажно жахаюся: колькі ў іх кніжак, як прыгожа выданы, як дзяшовы! Што ж за дзіва, што ў немцаў так расквечана культура! Рад я і вашай працы пры тэатры. Толькі што датыча друку, та хаця вы там не надрукуйце таго, што прыйдзецца мне надрукаваць. А каб ведаць, што я друкую, чытай ты кожны раз даклады, якія я пішу Ігнатоўскаму [1]

Глаўнейшая рэч у тым, што разме(не)ных грошы хопіць на трошкі выданняў. Дзве часткі рукапісаў прыйдзецца вязці назад, калі вы там не дастанеце новых асігновак.

Братка, празнай аб маёй жонцы і напішы мне. Я ад яе дастаў ліст за 20/X. За гэты час можна сем раз памерці і столькі ж разоў... ну, можа, менш... васкрэснуць... Пішы, пішы, хоць пяць слоў, але кожын тыдзень.

Вельмі нядобра, што няма як прыслаць табе чаго-колечы. Але, здаецца, хутка гэта можна будзе зрабіць: наша місія ўжо абвясціла правілы прыняцця пасылак, і я мо збяруся што-колечы прыслаць. Паведамі, ці атрымалася пасылка ад мяне з

выдавецкіх сценах, а некалькі іншага характару. Было гэта, здаецца, у 1928 годзе, а можа, і ў дваццаць дзевятым. У Беларускім дзяржаўным універсітэце вучылася тады шмат пісьменнікаў - маладнякоўцаў: Александровіч, Дудар, Зарэцкі, Крапіва, Глебка, Бобрык, Туміловіч, Хурсік, Вішнеўская, Пфляумбаум, Чарнушэвіч, Трус, Дарожны, Броўка, Якімовіч, Хведаровіч. Ларчанка, Кляшторны, Фамін, Скрыган і іншыя.

І была ў БДУ такая група студэнтаў, выхадцаў з нэпаўскага асяроддзя, чыноўніцка-мяшчанскіх колаў былога Мінска, якая была прасякнута вялікадзяржаўна - шавіністычнымі настроямі, усяляк трэціравала, зневажала, высмейвала студэнтаў-маладнякоўцаў, высмейвала беларускую мову і літаратуру, наладжвала абструкцыі выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. На чале гэтай групкі палітычных хуліганаў стаяў нейкі Снацкі. Вядома, былі прыняты адпаведныя меры па аздараўленню абстаноўкі. Адной з такіх мер было выступленне пісьменніка-акадэміка Цішкі Гартнага, а ў прыдачу да яго былі пасланы Глебка і я. Папулярнасць Цішкі Гартнага сярод студэнтаў была такой вялікай, што актавая зала універсітэта ў старым яго памяшканні на былым Земляробскім завулку (будынак былога Камерцыйнага вучылішча) не ўмяшчала ўсіх жадаючых прысутнічаць студэнтаў розных факультэтаў.

Я сядзеў і слухаў яго прамову і назіраў, з якою ўвагаю пры поўнай цішыні ў перапоўненай зале слухалі яго прысутныя. Спакойна, не павышаючы голасу, роўна і разважліва, ён гаварыў аб заваёвах Савецкай улады ў галіне будаўніцтва сацыялізму, аб ленінскай нацыянальнай палітыцы, аб росце беларускай культуры, мастацтва і літаратуры, аб тых вялікіх і пачэсных задачах, якія давядзецца вырашаць тым, хто сёння знаходзіцца ў сценах першага ў гісторыі Беларусі універсітэта, аб той вялікай справе, якою з'яўляецца братняя дружба паміж народамі, якія насяляюць нашу краіну, аб той шкодзе, якую нашаму грамадству, нашай моладзі, нашай будучыні прыносіць нацыянальная няроўнасць або варожасць, рэцыдывы буржуазнага нацыяналізму або вялікадзяржаўнага шавінізму, што сцены універсітэта, яго аўдыторыі павінны быць праветраны чыстым паветрам Кастрычніцкай рэвалюцыі, чыстым паветрам савецкага сацыялістычнага светапогляду...

Я слухаў яго роўную спакойную прамову і думаў. Як мог гэты чалавек, які скончыў усяго толькі Капыльскую двухкласную школу, які хапіў удосталь бяды і голаду, холаду і знявагі чалавечай годнасці, узняцца так высока ў сваім разумовым, у сваім духоўным інтэлектуальным развіцці? Гэта выступаў сапраўдны акадэмік, сапраўдны грамадскі дзеяч. Доўга не змаўкалі авацыі. Закрануў ён сваёй шчырасцю і пераканальнасцю юныя душы студэнцкія. Мы з Глебкам чыталі вершы. Доўга нас не адпускалі. І ніколі больш не паўтараліся ў сценах нашага роднага і праслаўленага ў часе універсітэта заганныя з'явы. аб якіх гаварылася вышэй.

Дадому вярталіся пехатой, тады не вельмі густа было тых машын: цяпер каля любога завода машын стаіць у сто разоў больш, чым тады каля будынка ЦВК і Саўнаркома на плошчы Свабоды. Прайшлі колькі крокаў моўчкі пад уражаннем вечара, сабраліся развітвацца, а Зміцер Хведаравіч і кажа:

— То, можа, зойдзем да мяне, яшчэ ранавата ды і галодныя ж, пэўне...

Гэта сказана было цёпла, хоць і без усмешкі. Толькі па інтанацыі яго голасу можна было адчуць, што гаворыцца гэта шчыра, а не ў адзнаку прыстойнасці. Жыў ён у Доме Саветаў, што на рагу вуліц Леніна і Карла Маркса. Якім жа гасцінным і простым быў за сталом гаспадар. І якою ветлівою і простаю жанчынай была яго жонка Надзея Сцяпанаўна. «Дзядзька Цішка», як любоўна звалі неафіцыйна гаспадара, сам амаль што не піў, так для прыліку паднёс да рота чарку, затое мы пастараліся на радасцях...

У пачатку 1931 года я пераехаў у Маскву. Некаторы час правучыўся на апошнім курсе Літфака МГУ, пасля ў аспірантуры пры тэатральным інстытуце, а вясною 1933 года быў пераведзены ў аспірантуру Дзяржаўнай Акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінград.

Гады маладыя лятуць хутка, а яшчэ хутчэй змяняюцца падзеі. Культ асобы Сталіна балюча адбіўся на працэсе культурнага і творчага развіцця рэспублікі. Многія былі абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме, рэпрэсіраваны. Многія былі ашальмаваны крытычнымі крыкунамі, якія нажывалі кар'еру на цкаванні і паклёпніцкіх практыкаваннях у друку, на сходах. Я памятаю, як цкавалі Міхася Зарэцкага за яго раман «Крывічы», як абвінавачвалі яго ва ўсіх смяротных грахах. Я чытаў той раман Зарэцкага. Гэта была першая спроба стварыць гістарычны раман з жыцця беларускага народа ў старажытныя часы, і пераканаўся, што нічога нацыяналістычнага, нічога антыгістарычнага і тым больш антысавецкага ў рамане не было. Аднак Міхась Зарэцкі, гордасць тагачаснай прозы і наогул нашай літаратуры быў выключаны з партыі. Тое ж самае адбылося і з З. Жылуновічам, які... «меў шэраг паліт. памылак нацыяналіст. характару, за што ў свой час крытыкаваўся сав. грамадскасцю, а ў 1931 выключаны з ВКП (б)». (БелСЭ, т. 3 стар. 367).

Аднак гэтая цяжкая падзея ў жыцці чалавека, аддаўшага ўсяго сябе справе будаўніцтва сацыялізму, будаўніцтву сацыялістычнай культуры сваёй рэспублікі, не зламала яго веры ў будучыню. Ён піша раман «Перагуты» (1935). у якім адлюстравана жыццё беларускай вёскі ў перыяд калектывізацыі. Глыбока рэалістычны. праўдзівы. прынцыпова партыйны гэты твор сведчыў аб значным росце пісьменніка, аб незгасальнасці яго творчага духу і таленту.

На працягу больш трох год ён вядзе грамадскую работу на заводзе імя Кірава ў Мінску, адначасова збіраючы багаты матэрыял для новага рамана. Ён палюбіўся, гэты сціплы і спакойны чалавек-пісьменнік, і партыйным кіраўнікам і прафсаюзным працаўнікам завода за сваю разумную і бескарыслівую дапамогу ім у рабоце ў выданні заводскай газеты, у творчай працы маладых рабочых, якія спрабавалі свае сілы ў літаратуры, адным словам, стаў сваім чалавекам у любым цэху, у клубе, а то і на кватэрах у рабочых.

Вынікам гэтай дружбы з калектывам завода з'явіліся кнігі «Наступ на горны» і «Гоман зарніц».

Пра гэта ўсё я даведаўся ад самога Зміцера Хведаравіча ў Ленінградзе ў 1934 годзе. А прыязджаў ён па запрашэнню кінастудыі «Беларусьфільм», яна зацікавілася матэрыяламі аб жыцці і працы завода, над якімі Цішка Гартны працаваў некалькі год, і частку якіх змясціў у перыядычным друку і ў асобных выданнях.

У тыя гады ў акадэміі працаваў беларускі паэт, былы кіраўнік нашумеўшай «Літаратурнай камуны», а ў апісваемы час прафесар і віцэ-прэзідэнт акадэміі Паўлюк Шукайла, а ў навукова-даследчых інстытутах акадэміі працавалі аспірантамі: у кінаінстытуце Бобрык і Бандарына, у тэатральным — я, а на кінастудыі загадчыкам сцэнарнага аддзела працаваў беларускі пісьменнік Ілары Барашка.

Пасля сваёй працы на кінастудыі Цішка Гартны часта заходзіў да нас у акадэмію, бывалі зрэдку і мы ў яго ў гасцініцы. Любіў ён у вольную часіну летнім адвячоркам прайсціся па вуліцах прыгожага і непаўторнага Ленінграда, па набярэжнай красуні-Нявы, міма помніка Пятру І, Адміралцейства, міма велічнага Зімняга, часта прыгадваў свае нялёгкія гады жыцця і працы ў Ленінградзе. У гэтых прагулках часта суправаджаў яго і я, або адзін, або з жонкай Наталляй Вішнеўскай, або з мілай шчабятухай экспансіўнай Зінай Бандарынай, або ўсёй кампаніяй збіраліся на кватэры ў нашага кіраўніка прафесара Шукайлы.

— Гляджу я на вас, — гаварыў Зміцер Хведаравіч, — і душа радуецца. Канчайце вы тут свае навукі, аспірантуры, дацэнтуры, прафесуры і рушце дадому, на Беларусь — поле дзейнасці неабсяжнае, ёсць дзе прыкласці і рукі, і розум... Туды, на берагі Дняпра ці Нёмана, трэба і студыю перацягнуць, лягчэй будзе свае фільмы рабіць...

Мы згаджаліся з ім, а ў душы думалі: «Дзяржаўны чалавек і без усялякіх чыноў падзяржаўнаму мысліць»...

— Дзядзька Цішка, а як у вас са сцэнарыем? —

— Думаю, адужаю, хоць справа новая і нялёгкая... — і крыху падумаўшы: — Абавязкова адужаю...

Так яно, відаць, і было б... Чалавеку такой цвёрдай і непахіснай волі і веры ў свае сілы і ў сілы розуму і таленту ўсё пад сілу.

У адзін з вечароў, прагульваючыся па набярэжнай Нявы, я асмеліўся задаць Зміцеру Хведаравічу пытанне, якое мучыла мяне даўно.

— Прабачце, Зміцер Хведаравіч, даўно мучыць мяне недаўменне з прычыны ўсяго таго, што адбылося з вамі. Жывучы апошнія чатыры гады ў Маскве, а цяпер у Ленінградзе, мы крыху адсталі ад беларускага жыцця... Як магло гэта ўсё стацца?

Крыху памаўчаўшы, нібы збіраючыся з думкамі, Цішка Гартны сказаў:

— Вось вы, маладыя, ведаеце, чаго вы хочаце, куды вы ідзяце, перад вамі ясная і простая дарога — бальшак, адным словам... Я ж шмат гадоў блукаў упоцемку, пакуль знайшоў дарогу да праўды, да ленінскай партыі, з якой звязаў назаўсёды сваё жыццё, бо толькі дзякуючы ёй, дзякуючы Леніну існуе Савецкая дзяржава — Беларусь... А тое, што здарылася са мной, з'ява хоць і брыдкая, але часовая, я быў бальшавіком-камуністам, я ім і застануся да канца. Рабочаму чалавеку галоўнае — праца, а яе ў мяне хапае...

Можа, мне здалося, але ў словах яго я адчуў глыбока захаваны, глыбока затоены боль...

**Алесь ЗВОНАК.**

Берліна, у якой я табе гальштук выслаў.

Пішы, што чуваць у Мінску. Тут я як за сцяною і вымушан старанна вучыцца арыентавацца ў заходняй палітыцы. Жыву затворнікам. У вольны час вучу нямецкую мову, чытаю белагвардзейскія газеты зрэдку і думаю аб Савецкай Беларусі несціханна.

Ну, кланяйся ўсім таварышам, як у Маскве, так і ў Мінску.

Зычу паспешнай працы.

Твой Цішка.

Берлін,
5/XII-1921 г.

●

Братка Міхаіл!

Дастаў ад цябе ліст, пісаны 10/XI. Рад яму. Ды чаму ж не радавацца, калі ён адзін прыносіць з сабою вестачку з дарагой бацькаўшчыны і ад дарагіх людзей. Ведаеш, ты сваімі лістамі да мяне адзін падтрымліваеш так патрэбную для мяне духова-ідэйную сувязь. Здаецца, што больш нікому (ды мабыць так і ёсць) няма ніякага дзела да таго, што я тут сяджу і духова цярплю ўсё ж для вялікай ідэі культурнага адраджэння беларускага працоўнага народа. Ніхто, апроч цябе, ні вестачкі, ні слаўца не пасылае — хоць задушыся ў гэтай Нямеччыне. Што ж, няхай. Справа не ў многасці, а ў вытрываласці і настойнасці малых лікам. Хай думаюць і робяць, хто хоць—там, у Мінску, ну а я настойваю на адным, не прарывай хоць ты са мной сувязі, і мы з табою мусім да канца цягнуць вазложаныя барацьбою з цемняю заданні. Зможам, братка!

Вось ты ўжо, напэўна, маеш лісты мае аб тым, што грошы разменяны. З усіх мільёнаў царскіх—выйшла 1.200.000 мар. На гэтыя грошы я сумею аддрукаваць толькі 100 аркушаў — кніжак 8—9. А ў мяне ёсць рукапісаў на 300 аркушаў. Знача, не хопіць грошы вунь скольki. Гэта дзякуючы затрымцы з вясны ажно. Вось, браток, прылажы ўсе старанні, каб яшчэ дастаць хоць царскіх мільёнаў 50—60. Яны тут (на нашу бяду) ізноў падняліся ў вартасцю.

Каб лепей было арыентавацца пры хадайніцтве аб новай асігноўцы, я хутка высылаю падрабязговы даклад. З даклада ўсё будзе відаць...

Трэба сказаць, што тут варункі для друку цяжкія: няма паперы — амерыканцы скупаюць, дзякуючы дарагавізне свайго долара. Але ўсё-ткі друкаваць можна, і мы вось-вось пачынаем друк.

Ты паштурхай праз Унешторг, каб мне літоўскае аддзяленне хутчэй пераслала разменeныя грошы; а то вось цэлы месяц, а мо і больш, яно не перасылае іх у Берлін і гэтым валтузіць страшэнна працу. Я ўжо патрабую адзін і з Грынбергам[2], а яны ўсё не шлюць. Проста злосць бярэ.

Пакуль не паштурхаў з Масквы — дык таксама і не мянялі доўга. Падгані як мага хутчэй.

(Не трэба, ужо не трэба. Дастаў вестку, што перасылаюць. Зміцер).

Прашу цябе, пішы мне часцей: хоць па некалькі слоў, але кожны тыдзень. Паведамі, як з тэатрам, як з маёю чысткаю ў партыі, як з друкам кніжак у Маскве і ў Мінску. Адным словам, пішы аба ўсім.

Таксама паведамі, як з маёй жонкаю, і пашлі ёй гэты кавалачак паперкі. Што чутно ў Капылі, у Мінску і ў Маскве?

Кланяйся ўсім знаёмым.

Твой Зміцер.

Берлін,
16/XII-21 г.

●

Братка Міхаіл!

Як бачыш, працы частку ўсё-ткі я зраблю. Частку таму, што ўся цяганіна з грашмі вельмі многа адняла сіл і часу. Цяпер, калі ўжо нарэшце відавочна стала, што здарма турбаца не станецца — якраз страшэнна многа адыме гэтае турбацы таннасць нямецкай маркі. Яшчэ тады, калі толькі я прыехаў у Берлін, марка была напалову даражэй, чым к пачатку працы... Антанта сцягнула ўсё золата, і папяровым грошам няма забяспекі. Вось зараз пайшлі гутаркі пра мараторыум для Германіі — бач, аб адсрочцы і палёгцы плацяжу кантрыбуцыі. Гэта на нямецкую валюту зрабіла крыху бадзёрайшы ўплыў. Аднак нельга чакаць падаражэння маркі — занадта ўжо агульная сітуацыя прывяла яе ў таннасць, падняўшы кошт на жыццёвыя рэчы. Жыць становіцца ў Нямеччыне з кожным днём даражэй і даражэй. Даражэе яда і адзенне. З-за гэтага час ад часу вынікаюць галодныя непарадкі. Усё гэта перашкодзіць нармальнаму жыццю, а значыць, і нармальнаму ходу ўсякай працы. Ільючонак[3], седзячы ў Мінску і маючы справу са Стронгіным[4], думае, што ён бы і тут, у Нямеччыне, усё б зрабіў бы раз-два. Напэўна, яго думкі падзяляе яшчэ хто-колькі, найбольш той, хто разглядае заграніцу, як Слуцак з Мінску, ці яшчэ прасцей. Ну, але што ж ім парадзіць. Разглядаць заграніцу з печы ў дому — не тое, што быць заграніцаю і мець справу ў ненармальным становішчы, якое ўсё яшчэ цягнецца пасля вайны. Можа здарыцца так, што прыйдзецца яшчэ калі зачым ехаць заграніцу — трэ будзе дэлегаваць Ільючонка.

Ну, але гэта я так сабе, зусім не па злосці, якой я не маю да яго.

Скажу, што твае апошнія лісты (ад 30/XI) вельмі суцешылі мяне тым, што робіцца ў вас. Безумоўна, калі праца пашырылася так, то выйдзе добры плён. Вельмі цешыць мяне студыя і тэатр. Адабраю тваю рашучую тактыку: без яе санліва Мінск нічога б не зрабіў бы. Братка, і далей не глядзі на Мінск: там вельмі асцярожныя людзі і калі што трэба зрабіць — дык паўгода думацьмуць. Толькі на другіх нагаворваць любяць. Што датыча опернага тэатра, та я сказаў бы, што ён вельмі патрэбен, толькі сумляваюся, ці вытрымае ён, пайшоўшы на самааплату. Трудна тое, што арэна яго чыннасці ў Беларусі, а вандраваць з трупаю — цяжка ды нельга вытрываць поўнасці і еднасці ў пастаноўках. Аднак трэба прабаваць. Трэба хутчэй пераложыць «Гальку» — гэта вельмі адпавядаючая беларускаму жанру опера. «Чаравічкі» — таксама добрая рэч. «Сарачынская ярмарка» — не ведаю, што за штука і чыя музыка. Ці не аперэта адно гэта? Толькі няхай сабе. Цікава тое, што хаця там у Мінску надрукавалі за апошні час? Калі згодна новай эканаміцкай палітыцы там знайшліся магчымасці друку — дык можна ўсю працу сканцэнтраваць там...

23/XII выслаў пасылку, у якой табе шлю рукавіцы, тры каўнерыкі, запісную кніжачку, фунт какао і тры штукі цытрын. Таксама і адну манішку. Гэта вельмі нецікавая штука, і больш я не захацеў купляць. На другі раз лепш куплю верхнюю сарочку. Абы добра пасылка зайшла. Атрымаўшы, напішы і паведамі таксама, ці наябрскай не атрымаў. Прашу пераслаць усе гэтыя дадатачкі ў тваім лісце па адрасам. Пішы поўна і падрабязна, што чуў у Мінску. Якава там па холаду зіма. Тут толькі два дні было звыш 10°, а снегу не было ні звання. Цяпер вось ужо з тыдзень ідзе ўсё дождж, і стаіць восеньская пагода.

Бывай здароў.

Уклон усім знаёмым.

Твой Цішка.

Берлін,
23/XII-21 г.

●

Братка Міхаіл!

Чаму ты не пішаш. Праз цябе прыйшло ўжо мне два пакеты без тваіх пісулек. Ці не быў ты толькі дома? Вось прашу цябе не пакідаць мяне без тваіх пісем і пісаць мне аб усіх навінах.

Як ты ўбачыш з дакладу — мая справа стаіць няважна. Бач, гэта «няважнасць» заключаецца ў тым, што, дацягнуўшы дагэтуль, за маючыя грошы магчыма надрукаваць вельмі мала кніжак. Траха не ўсе рукапісы прыйдзецца везці назад, калі вы там не паруціцеся з новымі

(Заканчэнне на стар. 14—15).

Я, падданы нязведаных трас,
Прыручаю агонь і ваду,
Прыручаю прастору і час.
Перасмяглы пустэльны стэп
Моўчкі марыць пра арыкі,
Сніць яшчэ не народжаны хлеб,
Трызніць ласкай маёй рукі.
Поле долі, дзе я пылю,
Завіруе жытнёвай ракой.
Бараную. Ару. Палю.
Ураджай калышу рукой.
У блакітную неба купель
Акунаюся з галавой, —
Зноў стартуе да зор карабель
З касмадрома далоні маёй...
Ах, матуля мая Зямля,
Закружылася ты ў вяках!
Як нямоглае немаўля,
Я трымаю цябе на руках.

●

Як ні ваюй супроць уласнасці,
Што ў нетрах душ карункі тчэ,
Мы ўсё-ткі тут да поўнай яснасці
І сёння не прыйшлі яшчэ.

І як, скажыце, не расчуліцца
Ад слоў: мой сад, мой агарод,
Мой дом, мая, нарэшце, вуліца,
Мая краіна, мой народ?..
Чародкай гукі несціханыя
Злятаюць з губ: мая і мой...
— Каханы мой! Мая каханая!
Ляціць да сэрца па прамой.
Ляціць з былога ў тлум сучаснасці,
Ляціць у заўтра з веку ў век:
— Люблю!
І ад такой уласнасці
Не адрачэцца чалавек.
І ўсё-ткі думка недарэмная
Падчас маланкай секане:
І скарбы сэрца патаемныя
Не аднаму належаць мне.
Хіба пачуцці ўзважыш гіраю?
Калі кахаю і люблю,
Сваёй душы парывы шчырыя
Я з некім блізкім падзялю.

●

Мастаку Івану Пятровічу РЭЮ

Завабіўшы ў жытнёвы гай густы,
Казыча сэрца колас умалотны...
Шчаслівы ты,
Калі забудзеш ты,
Што прад табой—
Мастацкія палотны.
Нясе жыцця адвечная рака
Вясёлку фарбаў, і святло, і цені.
Сапраўдная майстэрня мастака—
Бацькоўскі край,
А не глухія сцены.
Без стуку ў дзверы трапяткой душы
Сучаснікі твае—
Твае героі
І дзённай, і вячэрняю парою
Прыходзяць і гавораць:
— Напішы!
Парушыўшы спакой,
Прыходзяць так,
Што іх аблічам свет наш упрыгожыш.
Прыходзяць так,
Што калі ты мастак,
Не адказаць, не напісаць не зможаш.
Хай нас гукаюць зорныя грамы,
Мы з пачуццём сваім зaручым розум:
Ці ж можам здрадзіць у любові мы
Адданым сёстрам—
Соснам і бярозам?
Хоць свой тапор заносіць дрывасек
З камп'ютэрнымі робатамі ў змове,
Я чую, як лясы мае спрадвек
Шумяць на роднай беларускай мове...
Калі душа ў палёце думных дзей
Свайму народу аддае даніну,
З любоўю адкрывае для людзей
Краіна—мастака,
Мастак—краіну.
Я веру,
Стане чалавек дабрэй,
Адчуўшы фарбаў шматкалёрных брацтва.
Вядзі свой рэй,
Іван Пятровіч Рэй,
Вяршы свае айчыннае мастацтва!

## Плач па страчаным крэсле

Пакутую ад бяссоння:
О, гора маё, гора!
Я горка аплакваю сёння
Тое, што страціў учора.

Хтосьці, магчыма, скажа:
Крэсла—якая драбніца!
А мне вось гэта прапажа,
Як шчасце адзінае, сніцца...

Не ведаю, як адбіцца
Ад жаху свайго і страху:
Пасаднага крэсла пазбыцца—
Самая цяжкая страта!..

Бывала, мой гонар струменіць:
Ніхто ўжо на свеце не зменіць
Тое, што я накрэслю,
Царственна седзячы ў крэсле.

Ка мне з самага ранку
З паклонам службоўцы неслі
Паперы дзяржаўнага рангу,
Калі я ўладарыў на крэсле.

Як усявышні штурвальны,
Я песціў свой бас грымотны,
Падпісваў то ліст пахвальны,
То прыгавор смяротны...

Ведама, многія плачуць,
Ды слёзы іх важаць не дужа...
А знаеце вы, што значыць
Плач дзяржаўнага мужа?

Хто я цяпер, калі збегла
Крэсла, што мной абжыта?
Класці не ўмею цэглу,
Сеяць не ўмею жыта...

Раней бы такая навала
Як ліхаманка не трэсла.
Не адбіралі, бывала,
А толькі мянялі крэсла.

Было не панадна нікому
Ганьбіць наменклатуру...
Скажам, згарыш у заўкоме—
Кінуць цябе на культуру.

Але куды б ні несла,
Услед на карачках за мною
Бегла, як пёс, крэсла
З вернасцю заваднoю...

Чаму ж вы б'еце заўзята
У ладкі крутым пераменам,
Якія вашага брата —
Па галаве бязменам?

Я вар'яцею ад злосці,
Ад думкі адной паміраю,
Што зараз другі хтосьці
Крэсла маё прымярае.

А што, калі зноў у краіне
Зменіцца вецер аднойчы
І зноў мяне ўгору ўскіне?
А!.. Вы панурылі вочы.

Паслухайце, як стукоча
Сэрца майго мякаць...
Чаму з вас ніхто не хоча
Гора маё аплакаць?

# РЭКВІЗІЦЫЯ

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**



**Закончыў раман «Пабуджаныя» — пра падзеі нялёгкага, абцяжаранага першай сусветнай вайною і разам з тым светлага 1917 года ў Мінску, на Заходнім фронце і ў беларускіх вёсках.**

**Прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» ўрывак, у якім, на маю думку, адбіваецца лёс аднаго з галоўных герояў твора.**

**Аўтар.**

галаву хамут). Крывы ёсць Крывы, не можа без буркатні і злосці.

— Здароў, Пётрык! —гукнуў суседу Нямкевіч-бацька.

Той, здаецца, за апошні час схуднелы ды прыгорблены, у кажушку, падперазаны вяроўчынай, за якую былі заткнутыя рукаўкі, азірнуўся і адказаў прыязна. Ён, як і многія вясковыя старыя мужчыны, прыходзіць да іх кожны вечар — паслухаць Янкавы ваенныя былі, а таксама пагаварыць пра навіны. Канечне, па-ранейшаму не супраць, каб ён, Янка, узяў замуж яго дачку, Анельку-недарэку. Тым больш цяпер, калі янкавінскія хлопцы на вайне і талковых жаніхоў адзін-два, можа, і на дзесяткі дзяўчат. Праўда, ні бацька, ні маці пра яго жаніцьбу яшчэ не загаварылі, радуюцца, што вырваўся з акопаў жывы. Па-другое, можа, вычэкваюць спрыяльнай хвіліны для такой важнай гаманы.

Дарога цяпер, напрыканцы лютага, калі ўдзень прыгравала, слязіла снег маладое вясновае сонца, а ўночы падскакаў мароз, была цвёрдая, ездкая. Пазаўчора з'ездзілі на Шубін па сена, а вось сёння, пакуль цвёрды снег, шарпак, рашылі падацца па дровы. Пазней, у вясновую хлюпіну ці калі пачнецца работа ў полі, сенакос, дык не будзе на гэта часу. Ды стары Нямкевіч не любіў адкладаць на пазней тое, што можна зрабіць сёння. Да сенакосу, прыхапкамі, дровы трэба парэзаць і пакалоць, каб адразу пасля жніва, яшчэ да асенніх дажджоў, перанесці і скласці іх, аблетаваныя, у дрывотні. А па-другое, такая ўжо ў Янкавінах завядзёнка: у часіну шарпака вазіць з Шубіна сена, а з лесу — дровы. Калі паводзішся іначай, марудзіш — ты не гаспадар.

Конь бег шпарка, і яны хутка апынуліся на пагорку, на Пальку, а за ім, спусціўшыся ў лагчыну, уміг даехалі да свайго лапіка лесу. Развярнуліся, паставілі каня пры дарозе, падкінулі яму сена, а самі па надзеле бацькавага брата, Стася, падаліся да свайго. Тут, у густым ельніку, было цемнавата, стыла, а снег быў у дробных, нібы надзёўбаных ямачках-дзірках (ад упалых зверху камякоў снегу і кропель), але крыху далей, ужо ў іхнім сасонніку, быў нібы іншы свет: там, за яловым ценем, снег ярка бялеўся, нават залаціўся. Яго, а таксама ствалы, быццам ахутаныя празрыстым дымком, шчодра асвятляла высакаватае залатое сонца.

Дзе ўтрымліваючыся на зацвярдзелай скарынцы, а дзе і правальваючыся ў глыбокі зярністы снег ці ў яміны пад папараццю альбо вакол ядлаўцовых кусцікаў, цугам — гаспадар, падперазаўшыся пілой, з сякерaю ў руцэ, паперадзе, а Ясік і Янка за ім — дайшлі да сонечнага снегу. На ім тут было шмат перамерзлай кары, ігліц, а то нават і невялікіх апалых перамерзлых лапак.

Запыніўшыся толькі на хвілінку (каб акінуць вокам увесь надзел), бацька папраставаў да невысокай крывой, але тоўстай сухастоіны — добра ведаў, не адзін раз ужо абмацаў рукамі кожнае сваё дрэва. Вось тут адразу пачаў абтоптваць вакол снег, ссякаць кусцікі — каб пілаваць пры самай зямлі, не пакідаць на смех людзям высокага пня. Пакуль ён усмалее, абарве моц з зямлёю, калі можна будзе вырваць яго, дык будзе, як кажуць, рэзаць і калоць вочы.

— Дзед, давай гэтую зрэжам, — азваўся Ясік і стукнуў кулачком па старой высокай, лічы, без голля, толькі з невялікай зялёнай верхавінкай-чупрынай хваіне.

— Ого! — усміхнуўся і любоўна агледзеў гэтую сасну стары Нямкевіч. — Гэтая таўстуля — табе на новую хату. Будуць і дошкі добрыя на падлогу, і дылі на вокны. Мы з дзядзькам Янкам будзем жыць у нашай старой хаце, а табе, як толькі бацька вернецца з Амерыкі, адразу пачнем ставіць новы дом. Абудую вас, а тады ўжо буду збірацца ў сваю вечную дамоўку...

Ясік, канечне, яшчэ не зразумеў апошніх дзедавых мудроных слоў; яны ж, сталейшыя, паскідалі кажухі, моўчкі апусціліся на калені і пачалі пілаваць тоўсты, набрынялы вадой, а далей і смалой, ад таго і цвёрды, як жалеза, камель. Пасыпалася і востра запахла пілавінне (спачатку рудое і сухое — ад кары, пасля — сіняе, а затым жоўта-чырвонае — ад абалоні і смалы). Янка быў няўломак, змалку любіў і пыніў мужчынскую работу, але цяпер, калі піла пачала ўядацца глыбей і пакрыху заціскацца, ці то ад доўгай адлучкі ад такой працы, ці то ад развярэджанай раны адчуўныя-баліць плячо, стамляецца рука. Бацька ж вунь шоргае і шоргае, нібы яму зусім не цяжка, толькі прыплюшчвае вочы ды час ад часу здзьмухвае з рыжаватых вусоў і барады пілавінне і пакрыху чырванее. Але вось, калі Янка ледзь стрымліваў боль і стому, той запыніўся і разагнуў, выпрастаў спіну.

— Я, калі, можа, яшчэ во гэтакі быў, — кіўнуў на Ясіка, загаворваючы не пра тое, што муляла Янку, а зусім пра іншае, — часта ездзіў з бацькам у лес. Удзень — у свой, а ўночы, бывала, — і ў казённы. Дык вот, ведаеце, што трэба рабіць, каб далёка не было пілы чуваць? Не? Трэба камель кажухамі абгарнуць. Тады дзерава не звініць, не пяе, а глушэе.

Зірнуў на Янку і, мусіць, заўважыў на яго твары пакуту.

— Калі прыехалі ўжо, дык давай зрэжам хоць гэтую хвою. Толькі рэжма паціху, — прамовіў і, калі зноў запілавалі, дык ужо не спяшаўся, стараўся большы цяжар браць на сябе, а каб ён часцей цягаў пілу ўлегцы.

Пасля, калі паваліді сухастоіну, бацька затупаў ад хвойкі да хвойкі ды пачаў выбіраць самую нягеглую. Але ўсё шкадаваў: тая — крывая, але падрасце, камель будзе спраўны, тая — разгалая, але на калодзежны журавель прыдасца, тая ўсыхаецца, але вельмі ж гонкая, спрытная, на дошкі- шалёўкі пайсці можа...

Калі ўсё ж адшкадаваў, спілавалі яшчэ дзве невысокія няўдалыя хваіны, парэзалі на кавалкі. Лягчэйшыя насілі на сані па аднаму, а цяжкія цягнулі ўдвух вяроўкаю — чаплялі за самы камель вузел, бацька браў адзін канец вяроўкі, а ён — другі, перакідалі цераз плечы і валаклі. Самы цяжкі камель дацягнулі на дарогу канём — канцы вяроўкі прывязалі да гужоў хамута. Пасля падабралі ўсё астатняе — галлё, сукі, нават абтрушчаную кару і лепшае вецце (на памёлы). Складзеныя палены на санях перавязалі вяроўкамі і паціху падаліся дадому. Наверсе дроў сядзеў і кіраваў канём Ясік, а Янка з бацькам, пыхкія ад гарачыні, стомленыя, задаволеныя, моўчкі, кожны думаючы сваё, тэпалі за санямі ўслед. З'ездзяць яшчэ разы са два ў свой лес, дакупяць бярэзіны і альхі ў Налібацкім лясніцтве альбо ў хатаўскога пана — і будзе дроў на новую зіму. Вайна вайною, вэрхал вэрхалам, а гаспадару ўсё роўна трэба дбаць пра гаспадарскае.

Калі спусціліся з Палька (конь падбег, а Янка з бацькам адсталі), паднялі галовы і зірнулі на Янкавіны з гэтага, тыльнага, боку, дык абодва аж устрапянуліся: у вёсцы штосьці дзеелася няладнае.

Амаль ля кожнага (як можна акінуць вокам) гумна стаялі коні з санямі, а з гумнаў людзі выносілі і накладалі на сані сена. Што за дзіва: янкавінцы змовіліся і аднaчасова апаражняюць гумны? Але чаго тады па ўсім наваколлі чуюцца ўзбуджаныя людскія галасы, а там-сям даносіцца енк ці то плач. Стары Нямкевіч аж прыпыніўся і падняў навушнік аблавухі—каб усё лепш агледзець і ўчуць.

— Зірні ты сваімі маладымі вачыма, — папрасіў Янку. — Што там робіцца?

— Вайскоўцы і цывільныя людзі носяць з гумнаў сена, — тое, што ўбачыў, сказаў ён.

— Абіраюць, значыць... — дрыготкім голасам прамовіў бацька. — Неўспадзеўкі, гвалтам... Мала было той, перад калядамі, абіралаўкі...

Рушылі. Бацька пакрочыў неспакойна, узбуджана. Маўчаў, намагаўся хутчэй трапіць дахаты. Каб хоць сваімі вачыма зірнуць, што там робіцца, ды абараніць сваё дабро, нажытае потам, праз сілу, старасцю сваёй.

За лагчынаю, на горцы, за якой пачыналася ўжо Гарбацэвічава поле, яны дагналі сані з дрыўмі, і бацька забраў лейцы ад унука.

Вымкнуліся на вуліцу; далей трэба было перасекчы яе і выехаць на пагонку, што цягнулася ўздоўж Шлёмавай карчмы, а пасля павярнуць на іхнюю сценку.

Але бацька нечакана запыніў каня, і Янка, зірнуўшы на вуліцу, аж анямеў. Раптоўна адышоў, знік гаспадарскі клопат, а падкацілася маладое хваляванне: з вёскі кіравалася да свёкравай брамкі

(Заканчэнне на стар. 14—15).

## СТО РАДКОЎ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# У СУМНЫМ ЖАНРЫ

*«На ўсякага мудраца хапае прастаты» А. Астроўскага (пераклад К. Крапівы). Рэжысёр-пастаноўшчык У. Караткевіч, мастак-пастаноўшчык Л. Герлаван.*

*Рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі. 17 кастрычніка 1987 г.*

Спектакль гэты ўражанняў не выклікаў — увогуле. Не запамінаўся. Не абуджаў думак. Звыклыя папрокі пастаноўшчыкам класічных п'ес яго таксама не тычыліся. Знакаміты тэкст А. М. Астроўскага не скажаўся, гучаў са сцэны амаль што цалкам. Штучныя масткі ў сучаснасць не перакідваліся. Сацыяльныя намёкі ў падтэкст не ўводзіліся. Хрэстаматыйныя трактоўкі не разбураліся.

Было адно сумна. Было надзвычай сумна.

Хацелася што-небудзь пачуць па-за тэкстам, па-за сюжэтам убачыць. Зразумець. Не ставала новага рэжысёрскага асэнсавання славутай камедыі. Спектакль удала абмінаў усе спрэчкі, што доўжацца ўжо не адно дзесяцігоддзе, — пра тое, як трэба, а як не трэба ставіць класіку. Як варта, — а як не варта. Што з драматургічнай спадчынай рабіць можна, а чаго — нельга. Заклікі педантычных апекуноў літаратурных помнікаў знайшлі свайго адрасата... і п'еса — уцалелая, ды не адухоўленая тэатрам — успрымалася як мізансцэніраваны тэкст.



«На ўсякага мудраца хапае прастаты». А. Сідорчык (Глумаў) і М. Пятроў (Мамаеў).

Фота Ул. КРУКА.

Калі б стваральнікі спектакля здолелі насыціць падзеі класічнага твора токамі жыцця *сённяшняга, напоўніць* зместам — змест, дык, мабыць, убачанае на сцэне не падалося б такім невыразным. Магчыма, была б нагода засмуціцца — Астроўскім, пераведзеным ва ўмоўны план, без адзнак гістарызму... Зацікавіцца, нават здзівіцца — драматызаваным Глумавым (А. Сідорчык), падкрэслена сучасным Гарадуліным (А. Суцкавер)... Але ў спектаклі, які рэжысёрам быў вырашаны ў «сумным жанры», намаганні акцёраў і сцэнографа зрабіліся марнымі.

Не ведаю, ці ўсё зразумеюць тут акселераты-вучні... Дзеля чаго, напрыклад, у адным з эпізодаў галоўны герой і Клеапатра Львоўна (Т. Жданава) пакінуць сцэну — і праз колькі хвілін з-за куліс з'явяцца нейкія, мякка кажучы, дзіўнаватыя? Папытаць хіба ў служкі, які ў гэты час праз шчыліну ва ўяўных дзвярах прагна падслухоўвае-падглядае — а што *там паны робяць...*

Ці зразумеюць, ці ўсвядомяць галоўнае, закладзенае ў п'есу аўтарам, — як стаў магчымым спусташаючы душу кампраміс Глумава? Ці адкрыецца ім глыбіня падзення героя і ўвогуле — драматызм падзей, увасобленых Астроўскім у жанры камедыі?

Толькі на некалькі імгненняў падалося, што ТЮГ у гэтай рабоце непадобны на сябе. Што дух акцёрства ў п'есе класіка — невынішчальны. Прыцягнуў увагу рэзкай лініяй накрэслены М. Пятровым вобраз Мамаева. Прывабілі першыя эпізоды з удзелам Круціцкага, лёгкасць, з якой В. Лебедзеў ладзіў сувязь з рэчаіснасцю у сваіх клапатлівых дыялогах-споведзях.

Слова Астроўскага і *надалей гучала* надзіва актуальна — але ўжо безадносна да спектакля. Сугучнасць камедыі дню сённяшняму была відавочная. Падалося нават, што зварот да гэтага твора павінен быў прыцішыць тэатральны голад на праблемную п'есу... пра сучаснасць. Хвала рэжысёру, у якога такое пільнае вока!

— Аўтара!

Каго ж клікаць пад прэм'ерныя воплескі? А. Стрыкунова, які ў мінулым сезоне над «Мудрацом» працаваў? Ці У. Караткевіча, які цяпер «Мудраца» выпусціў і, мяркуючы па ўклееным у праграмку прозвішчам, паставіў?

А ўрэшце... Шкада акцёраў, якія зноў вымушаны нешта даводзіць у спектаклі неталенавітым.

Людміла ГРАМЫКА.

## МУЗЫКА

Мікалай ВОЛКАЎ,
загадчык кафедры Белдзяржкансерваторыі

# ЯГО ЧАКАЮЦЬ

**Даўно наспела патрэба стварыць у рэспубліцы філарманічны духавы аркестр. Здавалася б, ёсць для гэтага і творчыя перадумовы, і падтрымка Міністэрства культуры, але...**

Выступаючы на ўстаноўчай канферэнцыі Музычнага таварыства Беларускай ССР, старшыня праўлення Саюза кампазітараў рэспублікі І. Лучанок адзначыў своечасовасць і значэнне арганізацыі ў Беларусі эстраднага аркестра. І дадаў: «Наперадзе стварэнне духавога аркестра».

Сапраўды, такі аркестр даўно чакаюць не толькі прафесійныя музыканты нашай рэспублікі, але і шматлікія аматары музыкі. Папулярны ў самых розных колах грамадства з часоў Пятра І больш за два стагоддзі гучыць духавы аркестр і на балі, і ў гарадскім парку на гуляннях, і на ваенных парадах, і на грамадзянскіх цырымоніях. Непаўторны, уласцівы толькі яму каларыт гучання стварае атмасферу задушэўнасці, пранікнёнай чалавечнасці.

Гадоў трыццаць назад пачалося масавае захапленне вакальна-інструментальнымі ансамблямі, з папулярнасцю якіх духавому аркестру стала цяжка канкурыраваць. Чаму? Існуе, відаць, шмат градацый гэтай праблемы. Мне яна ўяўляецца, прынамсі, у пэўнай перабудове грамадскай свядомасці, перш за ўсё — свядомасці моладзі: яе жаданне ўдзельнічаць у калектыўным музіцыраванні перарасло ў імкненне ўсебакова паказаць сябе, свой унутраны стан, сваё светаадчуванне. Вакальна-інструментальны ансамбль дае ў гэтым сэнсе вялікія магчымасці для яго ўдзельнікаў. Акрамя таго — ён больш мабільны па складзе, яму лягчэй вырашаць многія творчыя і арганізацыйна-практычныя пытанні.

Аднак хіба толькі з-за папулярнасці такіх музычных ансамбляў упаў прэстыж духавога аркестра ў нашай краіне? Гэтага ж не адбылося, скажам, у краінах Заходняй Еўропы, у ЗША, дзе духавы аркестр прадаўжаў і прадаўжае паспяхова развівацца, карыстацца папулярнасцю і любоўю паралельна з іншымі формамі музіцыравання! У нас жа, і гэта са шкадаваннем трэба прызнаць, духавы аркестр як форма калектыўнага музіцыравання на даволі працяглы час прыпыніўся ў сваім творчым развіцці. Прычыны?

Доўгі час духавы аркестр як прафесійны існаваў толькі ў арміі, што пэўным чынам паўплывала на фарміраванне яго творчага аблічча. На стэрэатыпе ваеннага духавога аркестра выхавана ў нас не адно пакаленне аркестравых музыкантаў і дырыжораў. Гэты стэрэатып уплывае і на філарманічныя духавыя аркестры, створаныя ў апошнія гады ў Маскве, Кіеве, у іншых гарадах краіны. Яно і зразумела: тут у рэшце рэшт больш раўняцца *і няма на каго. Канечне, у ваенных* духавых аркестрах сёння досыць часта можна сустрэць інструменталістаў-віртуозаў, з асяроддзя гэтых аркестраў да пяцідзесятых гадоў выйшла нямала цудоўных музыкантаў. Але мастацкую місію такія аркестры выконваюць, у асноўным, калі іграюць страявы рэпертуар. У астатнім — празмерная гучнасць, прасталінейнасць у інтэрпрэтацыі, бедная штрыхавая палітра, тэмбравая аднастайнасць, што стамляе нават прыхільнікаў.

Слухаючы канцэртныя выступленні нашых духавых аркестраў, лавіў сябе на адчуванні, што праз 10—15 мінут цікавасць да іх знікае. Думаў, што гэта маё, суб'ектыўнае адчуванне. Ды не так даўно, знаходзячыся ў Маскве, слухаў там выступленне аднаго з вядомых сталічных духавых аркестраў. Назаўтра выпадкова сустрэў музыкантаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Разгаварыліся. Аказваецца, і яны былі на тым самым канцэрце, аднак... пайшлі пасля першага аддзялення: сумна, гучна, аднастайна. Мала музыкі. Звычайны, стэрэатыпны духавы аркестр, з усімі яго тыповымі недахопамі. А ў калектыве ж, я ведаю, выдатныя музыканты, у іх асабістых прафесійных магчымасцях можна не сумнявацца. У чым жа справа?

Успамінаецца пачатак 60-х гадоў. У Савецкі Саюз прыязджаў духавы аркестр Мічыганскага універсітэта. Яго выступленне мне пашчасціла пачуць у Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі. Нас, а там прысутнічалі ў асноўным педагогі і студэнты кансерваторыі, уразілі свежасць і высакароднасць гучання аркестра — ад аксаміціста-мяккага да крыштальна чыстага тону. Часам мроіліся трубы аргана, напоўненыя чысцінёй чалавечага дыхання. Дзіўная ансамблевая зладжанасць, здольнасць перадаваць найменшыя змены настрояў стварылі ў зале, перапоўненай прафесіяналамі і аматарамі музыкі, атмасферу сатворчасці, прыносячы эстэтычную асалоду і выканаўцам, і слухачам. На наступны дзень музыканты аркестра прыйшлі да нас у госці, у класы кансерваторыі. Мы пайгралі ім, яны — нам, ужо як салісты. І выявілася нечаканае: у сольным выканальніцтве мы паказалі ўзровень значна вышэйшы за амерыканцаў. На інструментах, якія выклікалі «дзікае захапленне» нашых калег і *якія яны* гатовыя былі набыць у якасці музейных экспанатаў, бо такія ў іх сталі ўжо рэдкасцю, мы — ігралі, і ігралі пераканаўча. Але такога ДУХАВОГА АРКЕСТРА, якім падаўся нам студэнцкі калектыў Мічыганскага універсітэта, такога УЗРОЎНЮ АНСАМБЛЕВАЙ ІГРЫ ў нас не было і, на жаль, няма дасюль. А мінула ўжо чвэрць стагоддзя, дык ці не варта, нарэшце, падумаць, чаму нашы, айчынныя, духавыя аркестры спыніліся ў сваім мастацкім развіцці, чаму ўтварыўся стэрэатып аркестра, які не задавальняе сучаснага слухача?

Адказ тут, на маю думку, просты. Доўгі час духавы аркестр фактычна не браў удзел у філарманічнай дзейнасці. Сімфанічны аркестр — вось гэта ўзровень музычнай культуры, гэта прэстыжна. На гэта не шкада і дзяржаўнай датацыі. Народны аркестр — гэта развіццё нацыянальнай культуры, гэта абавязвае. Духавы аркестр? Як быццам усе яго ведаюць, усе ў ім разбіраюцца. Як быццам хацелася б, каб ён гучаў, аднак... Пакуль гучаць адны размовы вакол неабходнасці адраджэння гэтага аркестра на канцэртнай эстрадзе. У выніку — аркестр гэты знік з кола творчых інтарэсаў кампазітараў, страціў слухача, рамкі яго дзейнасці звузіліся (за малым выключэннем) да выканання рытуальнай музыкі. Органы культуры, якія, здавалася б, павінны клапаціцца пра развіццё духавой музыкі, доўгі час займаюцца размовамі вакол праблемы ды паказнымі мерапрыемствамі, накшталт марш-парадаў, свята ў духавой музыкі, спрабуючы паднесці народу «вынікі без прычын». Вось і атрымліваецца: шуму бывае многа, а прафесійнага аркестра няма дагэтуль. *Я* зусім не супраць масавасці, тым больш, што ў гэтым плане тое-сёе робіцца. Аднак і «масавасць» будзе рэальная, а не папяровая толькі тады, калі будзе пачуты і ўспрыняты сучасны патрэбны ўсім духавы аркестр, які неабавязкова пераймаць, але на ўзровень якога можна раўняцца! Маю на ўвазе прафесіяналізм, высокае майстэрства, мастацтва чыстай пробы.

Сярод музыкантаў існуе прымаўка: «Няма кепскіх аркестраў, ёсць кепскія дырыжоры». Досыць слушная прымаўка. Хто становіцца сёння за пульт духавога аркестра? У ваенных аркестрах, вядома, ваенныя дырыжоры. У «цывільных», як правіла, **колішнія ваенныя дырыжоры.** Сярод іх ёсць таленавітыя музыканты, але ж іх мала. Прэстыжнасць гэтай прафесіі ўпала. Да яе, як правіла, звяртаюцца, калі закрыты ўсе іншыя шляхі ў музыку. А каго хацелася б бачыць на чале прафесійнага духавога аркестра? Таленавітага музыканта, якога захапіла б ідэя стварэння сучаснага арыгінальнага калектыву, музыканта сур'ёзнага, творчага, працаздольнага. Такога кіраўніка знайсці можна, відаць, сярод дырыжораў-сімфаністаў, кампазітараў ці інструменталістаў.

Ці ёсць у нас у рэспубліцы кваліфікаваныя музыканты для стварэння прафесійнага філарманічнага калектыву? Ёсць. Пра гэта можна сказаць упэўнена.

Студэнцкі духавы аркестр Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (кіраўнік А. Берын) мог бы стаць добрай асновай для арганізацыі калектыву прафесійнага. Працуе ён ужо не першы год. Неаднойчы выступаў у канцэртных залах Мінска, іншых гарадоў рэспублікі. Прафесіяналы даўно вядуць гаворку пра тое, што ён павінен быць рэарганізаваны ў філарманічны калектыў. Дарэчы, і чытачы «ЛіМа» ўсё гэта ведаюць.

Аднак мінае год, другі... Размовы працягваюцца, а канкрэтных захадаў ні ў арганізацыйным плане, ні ў плане прафесійнай арыентацыі пакуль не відаць. Тады міжволі ўспамінаеш, што размовы гэтыя ідуць ужо не адну пяцігодку. Адзін з першых дырыжораў, якога мелі на ўвазе як арганізатара і кіраўніка такога аркестра, не вытрымаў выпрабавання ці то часам, ці то... «даверам». Паехаў у Маскву і ўзначаліў духавы аркестр Вялікага тэатра Саюза ССР. А дырыжор жа той — ВЫХАВАНЕЦ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАНСЕРВАТОРЫІ. І сам рыхтаваўся, і арыентавалі яго на тое, што яму будзе даручана стварэнне прафесійнага духавога аркестра ў рэспубліцы. Менавіта дзеля гэтага ён у свой час быў накіраваны на адпаведнае навучанне ў асістэнтуру-стажыроўку Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. А ў выніку — у Беларусі ён аказаўся «лішні». У той жа час праблема падрыхтоўкі высокакваліфікаваных дырыжорскіх кадраў для нашай рэспублікі застаецца адной з набалелых.

Цяперашні дырыжор студэнцкага аркестра А. Берын таксама выхаванец нашай кансерваторыі. Добры арганізатар, высокакваліфікаваны музыкант. Як дырыжор-сімфаніст закончыў мэтавую асістэнтуру-стажыроўку Ленінградскай кансерваторыі. *Аднак, улічваючы «спецыфічныя* асаблівасці» нашай кадравай палітыкі ў мастацтве і ранейшы горкі вопыт, можна, мне здаецца, дапусціць, што неўзабаве і гэты дырыжор узначаліць духавы аркестр, ну, скажам... Ленінградскага тэатра оперы і балета.

Вось і атрымліваецца: музыканты ёсць, дырыжор ёсць, пра патрэбу рэспублікі ў такім аркестры нашы кіраўнікі культуры неаднаразова гаварылі публічна, а прафесійнага аркестра няма. Няма пакуль нават сімптомаў яго з'яўлення. Затое студэнтам-духавікам БДК канец мінулага навучальнага года быў фактычна сарваны, бо студэнцкі аркестр занялі ў мастацка-спартыўных мерапрыемствах, якія праводзіліся ў Мінску і ўсіх абласных цэнтрах. Можа, для арганізатараў масавых свят гэтак і зручней. Аркестр па цяперашніх мерках добры, фактычна бясплатны, заўсёды пад рукой. Даў каманду — і шагам марш! Пры гэтым беспардоннае ўмяшальніцтва ў навучальны працэс, якое не выклікана пільнай патрэбай і толькі дэзарганізуе студэнтаў і педагогаў, можна паднесці як «перабудову», «сувязь навучання з вытворчасцю». А тых, хто абураецца, абвінавацяць у неразуменні духу часу і дадаць пры гэтым: асцярожней, маўляў, паберажыся, мерапрыемства-то мае палітычнае гучанне. А *па шчырасці — усё тут прасцей: на* сённяшні дзень лягчэй камандзіраваць кансерваторскі аркестр ва ўсе вобласці рэспублікі, чым набраць у кожнай з іх па прыстойнаму аркестру ў сто чалавек. І нагадвае гэта колішнюю практыку: тады, гадоў 20 назад, сумяшчальніцтва не так жорстка кантралявалася, і некаторыя зухаватыя кіраўнікі самадзейных духавых аркестраў уладкоўваліся на работу ў 5—6 арганізацый, а на канцэртах-справаздачах прадстаўлялі фактычна адзін і той жа аркестр...

Ні ў якім разе я не супраць удзелу аркестра ў масавых мерапрыемствах. Я за тое, каб аркестр заваёўваў **масавую аўдыторыю.** Сорам, ганьба, калі на студэнцкія канцэрты ў зале філармоніі студэнтаў жа кансерваторыі прымушаюць рэалізоўваць білеты паміж сабой! Гэткая натуральная гаспадарка: самі сыграем, самі паслухаем. Галоўнае, што «ад кіраўніцтва» прыйдуць, і зала павінна быць поўная, а хто там сядзе — справа дзесятая. Можна падумаць, што ў Мінску, акрамя навучальных устаноў культуры і мастацтва, іншых няма. Што няма прамысловых прадпрыемстваў, воінскіх падраздзяленняў, дзіцячых дамоў і г. д.

Вось калі б у юбілейным годзе духавы аркестр кансерваторыі поруч з іншымі калектывамі ці з сольнай праграмай выступіў у розных абласцях рэспублікі перад працоўнымі буйных прадпрыемстваў, студэнтамі і навучэнцамі (і не толькі музычных навучальных устаноў), тады *гэта была б сапраўды справаздача,* адказнасць і прафесійная падрыхтоўка да якой кампенсавалі б страту вучэбнага часу. Гэта была б і сувязь вучэбнага працэсу з непасрэднай вытворчай дзейнасцю, і выкананне свайго грамадзянскага абавязку ў год юбілею Кастрычніка. А пакуль аркестр могуць уключыць у «адказны» канцэрт з полькай «Дзядуля» (шлягер «з барадой») ці ў другі, таксама «адказны» канцэрт з «Гусарскім мар-

(Заканчэнне на стар. 12).

# ЦІ АДЧУВАЕЦЦА ПОДЫХ ЧАСУ?

### Жывапіс на рэспубліканскай выстаўцы «Краіна Саветаў»

«...ЖЫВАПІСЕЦ, вучыся рабіць свае творы так, каб яны вабілі да сябе гледачоў і ўтрымлівалі іх вялікім здзіўленнем і асалодай». З такімі словамі звярнуўся да сваіх сучаснікаў і нашчадкаў геніяльны мастак эпохі Адраджэння Леанарда да Вінчы, веліч якога заключалася не толькі ў энцыклапедычнай адоранасці жывапісца, скульптара і вучонага-даследчыка, але і ў арганічнай сувязі ўсіх ягоных задум з жыццём, яго новымі патрабаваннямі.

Калі разглядаць рэспубліканскую выстаўку «Краіна Саветаў» з пазіцый высокай патрабавальнасці, у духу нашага часу, дык давядзецца канстатаваць, што ў цэлым яна не здольная прывабіць, а тым больш, утрымаць гледачоў «вялікім здзіўленнем і асалодай».

Я хаджу па зале жывапісу і імкнуся зразумець, чаму мяне адольвае сум? Чаму няма радаснага ўздыму ад сустрэчы з новымі творамі? І прыходжу да высновы: свежы вецер перамен, як мы сёння гаворым, яшчэ не ўварваўся ў вокны выставачных залаў. Тут не адчуваецца біцця пульсу нашага складанага, цікавага і трагічна-напружанага часу з яго энергічным рытмам, інфармацыйнай насычанасцю, імклівай дынамікай падзей, барацьбой за мір, за шчасце чалавека. Ствараецца часам уражанне, што нашы мастакі жывуць па-за часам (водгулле «вялікага свету» можна ўлавіць, бадай, толькі ў плакаце).

Здаецца, што выяўленчае мастацтва (і жывапіс, у прыватнасці) недаравальна адсталі ад літаратуры і кінематографа ў вастрыні пастаноўкі жыццёва важных праблем. У гэтай юбілейнай экспазіцыі няма карцін, якія хоць бы наблізіліся па сваёй значнасці да твораў В. Быкава, А. Адамовіча, В. Распуціна, Ч. Айтматава, да фільмаў Э. Клімава, Т. Абуладзе і В. Абдрашытава. Дык ці варта здзіўляцца, што такая слабая цікавасць гледачоў да гэтай выстаўкі?

Звернемся да недалёкага мінулага. Два дзесяцігоддзі назад у юбілейнай экспазіцыі, прысвечанай 50-годдзю Кастрычніка, радасным адкрыццём для гледачоў былі імёны тады яшчэ малавядомых жывапісцаў: М. Савіцкага, Л. Шчамялёва, М. Данцыга, Г. Вашчанкі, В. Сумарава і іншых, цяпер прызнаных майстроў беларускага савецкага мастацтва. З'яўленне іх было заканамерным: адбыўся XX з'езд партыі. Сёння мы — удзельнікі грандыёзных дзяржаўных пераўтварэнняў пасля XXVII партыйнага з'езда. Аднак перабудова пакуль закранула далёка не ўсіх творцаў, іх намаганні часам проста зводзяцца да дзелавога бегу на месцы. Мне здаецца, што менавіта так можна сказаць пра цяперашні стан беларускага жывапісу. Дастаткова супаставіць уклад адных і тых жа мастакоў у выстаўкі 1967 і 1987 гадоў. У сувязі з гэтым прывяду некалькі прыкладаў.

*М. Савіцкі. 1967 г. — «Партызанская мадонна» (сярэбраны медаль, цяпер карціна — «пастпрэд» Беларусі ў Трацякоўскай галерэі). 1987 г. — на выстаўцы «Краіна Саветаў» — не прадстаўлены.*

*М. Данцыг. 1967 г. — «Беларусь — маці партызанская» і «Мой горад». 1987 г. — «Час, падзеі, людзі».*

*Л. Шчамялёў. 1967 г. — «Маё нараджэнне». 1987 г. — «Новы год».*

*В. Сумараў. 1967 г. — «Мой дом». 1987 г. — «У. І. Ленін і дзеці».*

*У. Стальмашонак. 1967 г. — «Якуб Колас». 1987 г. — на выстаўцы не прадстаўлены.*

Відаць, невыпадкова ў назвах карцін 1967 года, якія ўжо сталі музейнымі, паўтараліся займеннікі: **«Мой** дом», **«Мой** горад», **«Маё** нараджэнне».... У кожнай з іх аўтары з гонарам дэкларыруюць сваю прыналежнасць да ўвасобленага, але шчасліва пазбягаюць абмежаванасці ў трактоўцы сюжэта. І як сёння крыўдна бачыць, што новыя работы гэтых жа мастакоў, прадстаўленыя ў экспазіцыі праз дваццацігоддзе, у многім саступаюць раннім. Цяжка, напрыклад, зразумець, як В. Сумараў, таленавіты педагог, які шмат гадоў плённа працуе ў народнай дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва, мог так у карціне «У. І. Ленін і дзеці» намаляваць рабят: невыразныя азызлыя твары, плакатная ўсмешка, позы маленькіх старых.

Аўтар шыракавядомых палотнаў «Беларусь — маці партызанская» і «Мой горад» паказаў сваю новую карціну «Час, падзеі, людзі». Якая важкая назва! Чакаеш ад М. Данцыга філасофскага асэнсавання праблем рэчаіснасці, а замест гэтага — нязначны бытавы сюжэт, якому ніяк не адпавядаюць вялізныя памеры палатна. Ды і людзі ля газетнага кіёска нагадваюць пачатковыя драўляныя нарыхтоўкі. У цудоўным гарадскім пейзажы «Мой горад» Данцыг дасціпна выкарыстаў калаж, упісаў яго ў паласу рэкламных шчытоў. У новай карціне друкаваная прадукцыя выціснула чалавека.


А. МАРАЧКІН. Планета «Палын». Памяці 26 красавіка 1986 года.


А. КІШЧАНКА. Зарапад (фрагмент).


М. СЕЛЯШЧУК. Таня.

Карціна Л. Шчамялёва «Маё нараджэнне» была напісана мастаком да 50-годдзя Кастрычніка, як песня пра гераічны час, пра нараджэнне новага свету. Тым больш ненатуральна бачыць яе аўтара ў акружэнні дакучліва падкрэсленых атрыбутаў «благополучия» («Новы год»). Хочацца хутчэй адысці ад гэтага палатна да дзвюх свежых, як глыток крынічнай вады, работ дачкі мастака — Людмілы Шчамялёвай. Адна з іх — радасная па каларыце — нагадвае стракатую беларускую посцілку («Убор маладой»), другая — стрымана-будзённая, амаль манахромная — цікавая па кампазіцыйным рашэнні і фактуры: калючыя штрыхі, прапісаныя ручкай пэндзля па бялілах, добра перадаюць аголены зімовы лес.

І тут мне хацелася б нагадаць, што выяўленчае мастацтва даўно перастала быць падручнікам для непісьменных. Відаць, наспеў час усур'ёз задумацца пра эстэтычныя якасці формы. «Марксіст, які гаворыць: «разглядайце карціну з сюжэтнага пункту гледжання», — дрэнны марксіст, аднабокі, калі ён не скажа, што пры тым яшчэ нельга забываць і на ўменне чытаць своеасаблівую мову выяўленчага мастацтва, моманты тэхнічны і прынамсі эстэтычны». Гэта — словы А. В. Луначарскага. Можна толькі захапляцца мудрасцю першага Наркома асветы!

Ну а колер? Ці можа жывапісец ігнараваць такі магутны сродак эмацыянальнага ўздзеяння на гледача?

Мы памятаем яркія прыклады метафарычнага колеру ў карцінах беларускіх жывапісцаў — «Ганча — зямля партызанская» В. Цвіркі, «Віцебскія вароты», «Поле», «Партызаны. Блакада» М. Савіцкага, «Макі» М. Залознага, «Чырвоныя землі Палаччыны» В. Грамыкі, «Легенда» Г. Вашчанкі. Да такіх твораў можна аднесці і габелен А. Кішчанкі «Зорны хлопчык» (у творчасці гэтага мастака так шчыльна перапляліся манументальна-дэкаратыўнае і станковае мастацтвы, што іх часам цяжка адмежаваць адно ад аднаго).

На выстаўцы «Краіна Саветаў» экспануецца вялізнае палатно Кішчанкі «Зарапад». Але, на жаль... У адрозненне ад «Зорнага хлопчыка» сэнс гэтага шматфігурнага халоднага твора не прачытваецца гледачамі. Яны далі карціне сваю назву — «Кіслотны дождж», бо колеравым камертонам для яе паслужылі ядавіта-блакітныя патокі фарбы, якія падаюць з нябёсаў на галовы людзей. Можна было б зразумець іх, як алегорыю «чумы XX стагоддзя» (радыяцыя, СПІД, рак і г. д.), калі б гэтая колеравая гама не стала для Кішчанкі ўлюбёнай. Увогуле цяжка растлумачыць узнікненне колеравых штампаў у мастака з багатым каларыстычным дарам, для якога колер — родная стыхія.

Бадай, самыя мажорныя і жыццесцвярджальныя на выстаўцы — палотны З. Літвінавай. Святочны каларыт карціны «Мір дому твайму», дзе чырвоны колер — сімвал радасці, прыгажосці, а белы конь — як сімвал мары пра шчасце. Другая работа — «Квецень» — рытмічнымі суадносінамі шматколерных акцэнтаў быццам просіцца на габелен, а трэцяя—«Абуджэнне» вабіць нейкай асаблівай чысцінёй і цнатлівасцю, нагадваючы паэтычныя вобразы старажытных майстроў.

Бываюць карціны, змест якіх немагчыма пераказаць словамі. На маю думку, менавіта такой неардынарнай работай на выстаўцы стала палатно «Белы вальс» А. Кузняцова — надзіва вытанчанае па настроі і колеры. Задуменна-журботныя жаночыя вобразы мастак напісаў крохкім шэра-блакітным каларытам. У гэтым творы жывапісец умела спалучае гладкую і пастозную фактуру, шырокія колеравыя плоскасці і зграбныя арнаментальныя ўстаўкі, якія ўтвараюць выразны рытм акцэнтаў і паўз. Гэтая карціна выклікае тую самую асалоду, якая, па словах Урубеля, адрознівае душэўны стан перад творам мастацтва ад стану перад разгорнутым друкаваным аркушам.

Такімі ж высокімі эстэтычнымі якасцямі валодае і «Беларускі нацюрморт» С. Катковай. Яго залатыя пераліва з пяшчотнымі ружовымі плямамі і чорным павуціннем ліній нагадваюць карункі каштоўных слуцкіх паясоў. Як адвечныя каштоўнасці ўслаўлены мастачкай сялянскі серп, збанок малака, мёд у чорным простым гаршку і цуд-птушка з саломкі.

Прыемна ўсведамляць, што ёсць мастакі, якія ўмеюць здабываць дадатковы эфект з самой фактуры жывапіснай паверхні. Можна з цікавасцю разглядаць невялікі серабрысты пейзаж А. Бараноўскага «Сакавік», у якім снег на беразе напісаны вельмі пастозна і шматколерна, а рачная плынь адрозніваецца ад спакойна воднай гладзі самім характарам мазка. Моцна напружаны фарбавы слой у нацюрморце А. Родзіна ўтварае эфект своеасаблівага мігцення. З яўным задавальненнем «гуляе» фактурай С. Шафрановіч, спалучаючы гладкае і корпуснае пісьмо, шырокія і дробныя мазкі. Праўда, яго карціна «З веку ў век» мае аналаг у мастацтве, але на высокіх узорах вучыцца не заганна.

Яркай дэкаратыўнасцю і дакладнасцю малюнка вабяць партрэты М. Селешчука (яны, на маю думку, намнога больш выразныя, чым буйныя палотны мастака). Фантазія аўтара пераўтварае рэчаіснасць у мудрагеліста-пышны маскарад, у якім мірна жывуць казка і рэальнасць («Лета», «Таня»). Амаль эстрадная кідкасць і экстравагантнасць формы, якая мае адрас у мастацтве мінулага, у многім адпавядае сучасным густам моладзі.

Нарэшце, апошняе пытанне, якое мне хацелася б закрануць. Ці можна лічыць, што юбілейная выстаўка «Краіна Саветаў» адлюстроўвае сучасны стан беларускага жывапісу? Думаю, што не. Яна не дае ўяўлення пра шматлікасць творчых індывідуальнасцей у саставе членаў Саюза мастакоў, маладзёжнага аб'яднання і нефармальных творчых груп «Няміга», «Галіна», «Фрагмент», «Форма» і іншых. Сярод маладых мастакоў ёсць нямала таленавітых, якія шчыра імкнуцца ў сваёй творчасці асэнсаваць наш супярэчлівы час. З'яўленне на выстаўках твораў розных па стылі і характары ўтварыла б атмасферу творчага спаборніцтва, спрыяла б творчым дыскусіям. У нас ёсць прыклады дыялогу дзяржаў з рознымі палітычнымі сістэмамі, а мы ўсё яшчэ не прывыкнем да кантактаў з уласнымі дзецьмі, якія проста гавораць на сваім жаргоне. Так, гэтая мова часам шакіруе нас. Але, сапраўды, — «ці лёгка быць маладым» і жыць пад пагрозай трох тон трынітраталуола, што навіслі над галавой кожнага жыхара Зямлі?

Пратэстуючы супраць жахлівых грымас сучаснасці, адны мастакі звяртаюцца да абстрактнай творчасці (дарэчы, якая не заўсёды валодае дэкаратыўнымі якасцямі). Другія ў пафасе адмаўлення абралі іранічна-бездухоўную мову «поп-арта». Трэція аддалі перавагу халоднай зласлівасці сюррэалізма. Але, як сказаў Паустоўскі, «усе гэтыя крайнасці (сюррэалізмы, дадаізмы, дэкафанізмы і іншыя «ізмы») з'яўляюцца па сутнасці зусім нармальным петушыным напалам маладосці. Няма ніякіх падстаў біць у набат і ўпадаць у крыклівую паніку, бо малады напал карысны — ён не дазваляе старэйшаму пакаленню заплываць тлушчам і лічыць сябе бясхібным і «недатыкальным».

У час работы з маладымі, лічыў У. І. Ленін, нельга прымяняць адны эстэтычныя меркаванні, інакш старое, больш спелае мастацтва затармозіць развіццё новага, а само хоць і будзе змяняцца, але тым больш марудна, чым менш яго будзе прышпорваць канкурэнцыя маладых з'яў.

На маю думку, адзіна разумны і дэмакратычны прынцып выставачнай дзейнасці — адмаўленне ад выстаўкомаў і прадастаўленне ўсім мастакам права без усякіх перашкод экспанаваць свае работы і кантактаваць з гледачом, максімальна выкарыстоўваючы прыдатныя для гэтай мэты памяшканні. Мастак **павінен** мець гледача, а глядач — **мець права** бачыць і параўноўваць.

На Усесаюзным пленуме па крытыцы ў Мінску ў верасні—кастрычніку гэтага года адкрыта гаварылася пра тое, што гісторыю савецкага мастацтва, як і гісторыю СССР у цэлым, прадстаіць напісаць наноў. А гэта значыць, што мастакі разам з іншымі дзеячамі культуры павінны ліквідаваць белыя плямы айчыннай гісторыі. Няўжо гэта не захапляючая па сваёй маштабнасці і адказнасці задача?!

**Ірына НАЗІМАВА,**
**мастацтвазнавец.**

# Рэквізіцыя

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

Зося. У валёнках, доўгай спадніцы, у ватовачцы, што была напята на жываце, у хустцы-канаплянцы. Зося таксама мігам акінула яго з ног да галавы позіркам, нібы зазіраючы яму ў душу сваімі вялікімі вачыма і, здаецца, разгубілася: ці запыніцца, ці збочыць у свой двор? Пайшла памалей. Поўная, важкая. Нос, вусны, як заўважыў ён, падпухлыя, непрыгожыя. Маладая ж яшчэ, а так бязлітасна змардавала яе красу цяжарнасць.

— Скажы ты мне, маладзічка, што ў вёсцы робіцца? — трывожна запытаў у яе бацька.

Яна ці не зразумела, пра што ў яе пытаюцца, ці не магла апамятацца. Але запынілася. Маўчала, толькі разгублена кратала бяскроўнымі вуснамі.

— Які тут вэрхал? — перапытаў стары.

— Сена, салому, авёс бяруць, — нарэшце вымавіла Зося.

— Хто бярэ?

— Салдаты і занямонцы.

— І ва ўсіх бяруць? Ці толькі ў тых, хто раней не аддаў пастаўкі?

— Ва ўсіх.

Бацька тузануў каня, заспяшаўся па пагонцы, а Янка, дагэтуль амаль тулячыся за бацьку, як не сваімі нагамі пайшоў ёй насустрач. Напрасткі ж рукой падаць да сваёй хаты. Зося не сыходзіла, чакала, пазіраючы на яго, здаецца, паглыбелымі і пабольшанымі вачыма, пад якімі былі цёмныя ўпадзіны.

— Ну, добры дзень табе, — прамовіў, запыніўся.

— Дзяньдобры, Янак, — ціха адказала. Вымавіла не гэткім чужым, як у яго, голасам, а лагодна, цёпла.

Ён ведаў: нехта з Гарбацэвічаў цікуе за імі праз акно, дык надоўга запыняцца і Зосю затрымліваць не варта. Але не мог пайсці, не перакінуўшыся словам з той, якую ўсё яшчэ кахае.

— Ну, як жывеш? — запытаў з хваляваннем, але не пазіраючы ёй у вочы. Пасвіў вачыма дол, а таксама азіраў яе валёнкі, на якіх сям-там, асабліва ў згібах-раўчуках, наліпла сенная труха.

— Жывая... — прамовіла, здаецца, па-ранейшаму стараючыся зазірнуць яму аж у душу. — А ты — як? Кажуць, цяжка паранены...

— Жывы і я. Хоць, можа, лепей было б, каб не жыў...

Яна змаўчала; калі падняў галаву і зірнуў у вочы, дык убачыў: яна прыкусіла падпухлыя вусны, пазірае аддана і плаксіва моршчыцца — па яе шчацэ паплыла, робячы раўчучок, буйная празрыстая слязіна. Вось затрымалася каля падбародка, сабралася ў кроплю, абарвалася і паляцела на зямлю.

— Выбачай... — адчуўшы, як сціснулася сэрца, ціха папрасіў і, каб не расчульвацца ды не нарабіць ёй сваёй чуласцю толькі шкоды, рушыў у свой двор. Здаецца, яна памкнулася затрымаць, штосьці сказаць, але ён не азірнуўся, не затрымаўся. Дзіўна, але адчуў вялікую палёгку: вось і адбылася першая сустрэча, размова. Пасля сённяшняга не павінна быць такога, як раней, вялікага напружання, асцярожлівай боязі выйсці са свайго двара і нечакана сустрэцца з Зосяю. Што далей будзе, як яно ўсё павернецца, разгорнецца, адзін толькі бог ведае, але, зноў і зноў змушаў сябе паверыць Янка, свет для яго пабольшаў, і яму стане лягчэй.

Ля сянец яго спаткала маці — у старых, абшытых спаднізу цялячаю скураю валёнках, у некалі чырвоным ад цэглы, а цяпер аблінялым кажушку ды звыклай цёплай хустцы. Мусіць, стаяла дагэтуль якраз тут, на ганку, назірала за ім і Зосяю, чакала яго.

— Зноў бяда, сынок... — з адчаем сашчапіла рукі. — Наехала ж набрыдзь і абірае. Чуеш? — кіўнула галавою на загуменне. — Здаецца, ужо ломяць дзверы, каб у гумно залезці...

Ён, нічога не адказаўшы, рашуча закрочыў па двары да дрывотні, каб праз яе выйсці на загуменне, дзе, як убачыў ідучы дадому, стаіць чужы конь.

— Як вы паехалі ў лес, дык іх скора і прынёс чорт, — тлумачыла маці, спяшаючыся за ім. — Саней, можа, і паўсотня, не меней. Усю вуліцу з канца ў канец запрудзілі. Я, як убачыла, дык абмерла: прыехалі ці высяляць, ці зноў абіраць. Аж, кажу, умлела: што без вас, мужчын, рабіць буду? Выйшла да Стася, папытала: «Можа, ведаеш, чаго прыперліся?» — «Ужо не кроў, а сокі піць з нас», — кажа. Я за замкі — ды на дзверы гумна, хлява і клеці. Аж прыходзіць у хату малады ахвіцэр і пытае: «Хазяін дома?» — «Нямашака, — кажу, — у лес паехаў». — «Вы — хазяйка? Калі вы, дык вот бумага, давайце пуд аўсу і пятнаццаць пудоў сена!» — «Дык мы ж давалі перад калядамі!» — «Січас па-новаму трэба...»

Мінулі дрывотню, дзе яшчэ былі паўтары складні сухіх бярозавых і хваёвых дроў, стаялі смаловыя круглячкі, зробленыя бацькам за зіму палазы, колы, аглоблі, віселі пад страхою грабільны, вілкі.

На прыгуменні стаяў рыжай масці, з белымі надкапытнікамі конь з санямі, ля іх — малады невысокі прапаршчык, на шчацэ якога быў доўгі, можа, і ад штыка, рубец, а двое, пажылы цывільны дзядзька ў кажуху і малады салдат у шэрым зашмальцаваным шынялі, падважвалі каламі цяжкія замкнёныя знутры дзверы, каб зняць іх з завесаў.

— Што за разбой сярод белага дня? — сурова прыкрыкнуў Янка.

Дзядзька і салдат уздрыгнулі, выпрасталіся і вінавата залыпалі, прапаршчык спачатку таксама з некаторым збянтэжаннем зірнуў на яго, высокага, шырокага ў плячах, на яго вайсковыя штаны, а пасля, як амаль і кожны невысокі чалавек, захрабрыўся:

— Кто такой?

Нагнаў строгасць на свой малады, сям-там з болькамі твар, паправіў кабур за паясніцаю: ведай, мы са зброяй, мы — сіла! А па-другое, як і кожны вайсковец, можа, са злосцю зірнуў на яго, цывільнага: мы — у арміі, гаруем, а ты, здаровы бык, аціраешся ля жаночых спадніц!

— А ты хто такі? — не збаяўся, уплішчыў у яго позірк Янка. — Хто даў табе права марадзёрыць?

Прапаршчык, здаецца, адчуў, што перад ім не тутэйшы вясковы целяпень, а бывалы малады мужчына, дык трошкі памякчэў:

— Вы — хазяін?

— Што вам трэба? — Янка па-ранейшаму быў суровы. Нават злы. За армію, за салдат, якія вытвараюць вось такі грабеж. Нават і з-за таго, што разумеў: самі вайскоўцы не зусім вінаватыя, робяць, тое, што ім загадалі.

Прапаршчык падышоў, расшпіліў скураную карычневую сумку з пазалочанаю зашчапкаю і дастаў з яе паперыну. Падаў.

— Вот распоряжение на дополнительную реквизицию у населения корма для нужд Туркестанских частей, — патлумачыў. — Распараджэнне узгоднена са штабам нашай другой арміі і Земсаюзам у Мінску.

Янка прачытаў тое, што было надрукавана на машынцы, замацавана пячаткаю і размашыста падпісана вялікім чынам. Сапраўды, гэта быў высокі загад, дзе нават была пагрозная прыпіска: «...в случае неповиновения пресекать онное силой». Ён нічога не сказаў прапаршчыку, паказаў рукой на сценку, куды ўжо заварочваў з санямі бацька.

Пад'ехаўшы, той адразу ж закрочыў сюды.

— Здраствуйця, — павітаўся, аддаючы павагу вайскоўцам.

Прапаршчык казырнуў.

— Вот папера. На новую рэквізіцыю, — прамовіў Янка і падаў бацьку лісток.

Бацька, паколькі слаба блізка бачыў, далёка ад сябе аднёс паперу, паволі прачытаў.

— Вы б пачыналі ўжо з нас жывых скуру здзіраць... — калі дачытаў, прамовіў прапаршчыку. — Сабе на боты, на рукавіцы...

— Прыказ, хазяін.

— Вот ён, наш сын, на вайне быў, паранены, — пачаў шукаць паратунку бацька. — Фельдфебель. Георгіеўскі кавалер.

Прапаршчык ужо цяплей, нават з павагаю зірнуў на Янку.

— Дык дзеля чаго ён ваяваў, кроў ліў? Каб яго сям'ю абдзіралі, рабілі жабракамі? Каб мы не толькі марнелі, чэзлі, але каб і без пары, без часу перамерлі, як мухі?

Прапаршчык маўчаў, але сыходзіць з прыгумення не збіраўся.

— А ты чаго, чалавеча, чужыя дзверы ломіш? — нечакана накінуўся бацька на цывільнага мужчыну. — Няўжо сам не гаспадар?

— Я ж... Загадалі... — збянтэжыўся той — прысадзісты, чорны, як цыган, з

# «Час дарма не прападзе...»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6—7).

крэдытамі. Чамусьці Некрашэвіч[5] піша, што ў грашах адказалі. У якіх грашах, у каго іх прасілі — з яго запіскі не відаць. Матыў, які ўказвае Некрашэвіч, — зусім негрунтоўны. Мне б хацелася мець ад цябе паведамленне... Калі я выказаў Грынбергу разуверра ў скутках[6] працы, на якую столькі пайшло турбацыі, дык ён кажа: «А што значыць, што вы лементар надрукуеце. Прасіце больш крэдытаў — бо колькі ж можна за мільён надрукаваць». Я сказаў яму, што маёю працаю ў Мінску незадаволены. Тады Грынберг кажа: «Гэта лёгкая работа — выказваць недавольства. Яны думаюць, што тут усё лёгка даецца. Хай папробуюць праведаць...»

І сапраўды, я каб ведаў, што так цяжка будзе ўсё давацца — я нізашто і ніколі б не паехаў заграніцу з гэтым паручэннем. Як цяжка ўсё давалася, могуць расказаць і Грынберг, і Ладыжнікаў[7], і Цвікевіч[8], і Зіў (завед. яўрэйскай секцыі). Затое ўжо неяк кніжак з пяць надрукуем: працу пачалі.

Твой Цішка.

22 г., 9/1.

●

Братка Міхась!

Я вельмі рад усяму таму, што там робіцца і аб чым ты пішаш у сваім апошнім лісце. Вельмі рад, што ты застаўся на сваім старым месцы і магчымеш вясці дальш тваю дужа карысную для справы культуры працу. Не лішчу—без цябе нічога не таўханулі б уперад. Ведаю і знаю я ўсю млявасць беларускую, нерухомасць і кіслятню. Імі заражаны ўсе. Няма ні ў кога ініцыятывы. Бывала, будучы ў Мінску, колькі мне прыходзілася паштурхаць кожнага, каб зрабіць тое ці сёе. Пратэст супраць польскіх гвалтаў, стрэча Коласа, Купалы, хата мастацтва, зборнік памяці Булата[9] — усё пачынаў я і каб не я — то ніхто б не зрабіў бы нічога. Цяпер жа ўся актыўная праца ў цябе: тэатр, дзяржаўныя ўмовы, выдавецтва, секцыі і інш. І без цябе ніхто не зрабіў бы гэтага. Я вельмі рад, што маешся ты і пакуль што ў цябе хапае бадзёрасці і хацення гэтай цяжкой і адпаведнай працы. Я, прызнацца, цяпер толькі хвілінамі маю пазывы да арганіцыйнай працы. Але чуюся, што я да яе не вярнуся. Больш і больш забіраюць верх думкі—пайсці, вярнуўшыся ў Беларусь, на завод, к сабачцы[10], дзёгцю і скуры. Пасля 8-гадзіннай фізічнай працы штодня ўсесціся за творчасць. Я тут пачынаю працяг рамана «Бацькава воля». Трэ яшчэ напісаць дзве часткі — бо гэта трылогія. Пісаць жа вельмі прыемна і добра, калі ты адчуваеш усёю істотаю быццё працаўніка, творца матэрыяльных багаццяў. Праўда, страшэнна патрэбна пашырэнне культуры. Без гэтага нельга рабіць крокаў уперад. І вось — культурная праца і праца па стварэнню матэрыяльных багаццяў — першыя заданні кожнага чалавека—грамадзяніна працоўнай рэспублікі. Пры працы на заводзе я хацеў і сваім прыкладам і агітацыяй, апіраючыся на бачанае мною, даказаць рабочым іх вялікі доўг і абавязкі к рэспубліцы як к цэламу. Мне хацелася б бачыць і знаць, што грамадзянін Савецкай Федэрацыі мае не толькі індывідуальную клапатлівасць. Патрэбна любашч да свайго пралетарскага vaterland (отечества) і ў імя гэтай любашчы звясці асабістыя інтарэсы да мінімуму. Тады з Савецкіх рэспублік вырастуць багатыя непрыступныя ўражым сілам крэпасці-веліканы. Я ўсё думаю над гэтым і прыходжу к выйсцю, што патрэбна культура — культура, як найбольш культуры...

Кланяйся ўсім.

Твой Зміцер.

16.1.22 г.

●

Братка Міхаіл!

20/І выслаў пасылку жонцы. У гэтай пасылцы для цябе маецца дзве сарочкі. Вось калі атрымаеш яе, вазьмі распары і зверху дастань іх, потым, як і заўсюды, накіруй пасылку ў Мінск.

Гэта адно. Другое наконт друку. З дня на дзень чакаю першай карэктуры, за якою друк пойдзе ва ўсю. Грошы, здаецца, хутка выдрукуем, калі ўсё пойдзе, як яно паказвае цяпер. Апошняя затрымка выйшла з-за беларускіх знакаў «ў» і «ё», зрабіць якія ў Ляйпцыгу ўзяліся за два тыдні, а ў Берліне патрабавалі для гэтага 3 месяцы! Ды то, знакі будуць зроблены не да машыны, а да ручнога набору. Загэтым друк так швыдка не пойдзе, як то пайшоў бы ён машынным спосабам. Праўда, затое ён будзе чысцейшым. Для машын наборныя знакі трэ выпісваць з Англіі (гэта ў тэхнічна развітай Германіі!), і на гэта патрабавалася б тры ці чатыры месяцы! Як бачыш, усё не так проста робіцца, як то думаюць у Мінску.

Вось цяпер, браток, нагані Некрашэвіча і сам яму памажы дастаць новыя крэдыты на друкаванне ўсіх маючых у мяне кніжак. Іх астанецца на 200 друкаваных аркушаў па 8000 экземп. Лічачы аркуш сярэднім па 2 маркі, выйдзе тры мільёны марак. Беручы пад увагу, што і ў прыгожай пісьменнасці большасць вершаў і набор будзе дзешавей — можна скінуць з гэтай сумы з паўмільёна. І вось патрабуецца $2^1/_2$ мільёна марак. Калі можна дастаць крэдыт, то толькі прашу маркамі, бо з царскімі болей мець справы я не хачу. Таксама, калі прысылаць, то тым найхутчэй, каб застаць яшчэ нескончонай работу і не даць падзешавець у канец марцы.

З пашанай. Твой Зміцер.

Уклон усім.

19/І-22 г.

●

Братка Міхаіл!

Трэба сказаць, што цяпер у мяне настрой інакшы, чымсь уперад. Час дарма не прападзе. Хоць сем ці восем кніжак, а прывязу. Добра і гэта ў наш бедны скарб. «Лементар» будзе добры. Другія кніжкі — не горш. «Граматыка» ў дарозе. Шкода, што грошы мала—а так бы наадбіваць можна шмат чаго. Тут у нас поўная вясна. Чуецца бадзёрай. Як-ніяк блізіцца час, што і мне трэба прыязджаць к вам. Шкада, што я не сумеў тут паправіць здароўя і чуюся такім самым утомленым, як і сюды ехаў. Вельмі шмат энергіі ўзяла падгатоўчая да друку праца. Нерваваўся, злаваўся. Ды цяпер несупынна трэ штырхаць, а то на кожным кроку спатычка. Усё ж, думаецца, што дойдзе к добраму к канцу. Што-то там у вас? Мяне дзівіць пагоня за самаапалатаю. Гэта ж згубіць беларускі друк, згубіць студыю і здорава ўдарыць па развіццю беларускай культуры. Ніколі не можна пускаць на самаакуп — хоць бы газету... Цікаўлюся рухам у Маскве. Працуй, браток, — гэта безаддзячным не застанецца.

Скажы, як справа ідзе са студыяй. Як у Маскве жывецца. І ці пачалі працаваць па выдавецтву. Заложаны вамі кааператыў — вялікая рэч, толькі б добра ён развіўся...

Я табе несупынна шлю газеты. Шлі ты мне «Савецкую Беларусь». З пасылкамі ўжо кепска: няма як высылаць. Бачыш, яшчэ дэкаберскіх не атрымаў. Ты там запытвай аб іх час ад часу: не можа ж быць, каб прапалі суйздром.

Кланяйся сваім. Кудзельку і малому Гарэцкаму[11].

...І пакуль, бывай здароў.

Твой Зміцер.

Берлін,
11/III.

●

Братка Міхаіл!

Вось я, браток ты мой, пэўна, скора прыеду, бо работа нарэшце зарухала як след і павінна быць скончана не пазней першай палавіны мая месяца. Аднак гэта нічога не кажа за тое, каб ты мне не пісаў, а чакаў, пакуль я прыеду і нагаваруся з табою вока перад вокам.

Таксама дрэнна, што я не ведаю нічога аб старанні вашым далейшых крэдытаў. Хоць, як я ўжо даўно пісаў табе не раз, мне яны цікавы не для таго, каб мне застацца тут працаваць — шчыра кажу, што я гэтага не жадаю, — а цікаўлюся пастолькі, паскольки цікаўна тая справа, на якую яны пойдуць і для якой мы з табою працуем.

Вось яшчэ даражэнькі, нашчот маёй жонкі: калі можна выклапатаць дазвол паехаць у

бояззю зыркаючы на прапаршчыка.

— Скуль жа такі паслужлівы?

— З Любчы.

— Вёска гаспадарлівая, кірмашамі добрымі слаўная, а ты, чалавеча, сабака! У крыві нашай, мусіць, ужо гэта — халуйства — сядзіць! — абурыўся бацька і, здаючыся, бачачы, што паратунку і абароны няма, выйшаў праз дрывотню на той бок гумна, каб, відаць, скінуць з гэтых дзвярэй крукі. Гаспадыня затрусіла подбегам за ім — падаць ключы.

Калі неўзабаве адчыніў на бакі двайныя дзверы, быў хмурны, збялелы, як палатно, а маці ламала рукі і галасіла:

— Як жа мы датрымаем кароўку, каня да вясны? Колькі тут таго сена? За што на нас такая кара? За якія такія нашыя грахі?

Вайскоўцы моўчкі зайшлі ў гумно, а селянін захітаў галавою:

— І праўда ж, наўрад ці хваціць самім да вясны...

Бацька не пазважаў на яго спачуванне, узяў з кутка тока драўляныя вілы і моўчкі, пералезшы цераз застаронак, пайшоў па адгародцы ў яе канец, дзе ляжаў абскублены пласт сена. У другой загародцы была яшчэ меншая горка — з ячнай і жытняй саломы ды з грацкоўя. Моўчкі пачаў браць зверху і шпурляць сюды, на ток, сена, а салдат і дзядзька-селянін, чмыхаючы ад пылу, пачалі падбіраць яго і ўкладваць на сані.

Калі няпрошаныя госці ад'ехаліся, бацька, замкнуўшы гумно ды страсаючы з грудзіны пацяруху, паскардзіўся:

— Бачыш, сын, як мы жывём, як з намі лічацца... З вас, маладых, наш цар кроў п'е, а з нас — скуру пачынае здзіраць... Хочаш не хочаш, а прыйдзецца скора да Гарбацэвіча і нам у пазыкі ісці, у даўгі залазіць... Змоладу быў сам сабе гаспадар, сваім усім абыходзіўся, а цяпер на старасці... Абадралі, як ліпку, да галецтва давялі... Дык дзеля чаго жыў, стараўся? Каб такое ўбачыць? Напакутавацца? Памерці, праклінаючы свет і сваё ўсё жыццё?

— Па ўсёй вялікай Расеі такое, тата... — прамовіў Янка.

— Не, мусіць, такога пекла, як у нас, нідзе няма... — пахітаў галавой уцямнелы бацька. — Ніякай спавагі ды справядлівасці... Што хочуць, тое і робяць... «На нужды арміі...» Але ж гэтыя вашыя нужды бяздонныя, як і ва ўсякага ненаеднага горла...

— Якраз з-за зацягненай вайны, з-за голаду люд у Петраградзе забунтаваў...

— Што той люд зробіць супраць сілы?! — махнуў рукой бацька. — Заўсюды люд таўклі і плакаць не давалі... Рабі! Давай-давай! Цярпі! Маўчы! Не пікні!

Янка змаўчаў. Па-першае, бацька, мудры чалавек, гаварыў праўду, а па-другое, добра не ведаў, што цяпер робіцца на франтах, у Петраградзе, нават тут блізка, у Мінску. Як вярнуўся дадому са шпіталю, дык нібы і зачыніўся за ім свет. Ведаў толькі тое, што скажуць старшыня Сяргеенка, айцец Феадор альбо раскватараваныя па Янкавінах афіцэры — тыя, каму траплялі ў рукі сталічныя газеты. Але газеты прыходзілі са спазненнем альбо не ўсё з іх можна было зразумець, дык вёска, а з ёю і бывалы ўжо чалавек Янка, мала зналі, што недзе адбываецца і што з усяго гэтага выйдзе. Пра гэта, канечне, больш ведалі ў Мінску у губернскім горадзе і ў штабе Заходняга фронту, у Магілёве, у Стаўцы, дзе цяпер сам цар.

Памаўчаўшы, бацька і сын паныла пасунуліся ў хату, дзе, канечне ж, іх чакалі не ўцехі, а — слёзы, скаргі засмучанай гаспадыні.

---

**Берлін максімум за месяц, то шчыра прашу патурбавацца аб сім—зробіш вялікую ласку, — а калі гэта справа грозіць зацягнуцца — то няма жаднага сэнсу, бо я к канцу мая ці к началу юня прыеду дамоў.**

**Скажу, што я тут дастаў другую пачку «Савец. Беларусі». Дзякую дужа за гэта. Скажы мне, ці акуратна ты дастаеш ад мяне газеты? Я шлю табе іх кожны тыдзень. Скажу, што тут «сменавехаўцы» пачалі выпускаць сваю газету «Накануне», якую я да канца маёй бытнасці тут буду высылаць разам з другімі. Вось наконт паліта, та пастараюся гэта зрабіць у Літве ці ў Рызе, адкуль можна высылаць пасылкі. Адгэтуль цяпер ніякім чынам не бяруць — нават кніжак, — нямецкіх падручнікаў для Некрашэвіча не магу ніяк прыслаць.**

**Вось, браток, ніякай рэчы ў зборнік ваш пакуль не маю. Заняўся з январу другою часткаю рамана — я маю пісаць трылогію — і ўвесь вольны час аддаю яму. Можа, напішу якіх вершаў — та прышлю пасля.**

**Як са студыяй? Я так цікаўлюся ёю.**

**Твой Зміцер.**

Берлін, 26/III 1922 г.

●

**Братка Міхаіл!**

**Ужо па сваёй пісаніне я бачу, як ты дрэнчыш. Напісаў бы ты мне спакойна ды многа, але, на цябе паралюш, не хочаш.**

**Так. Што датыча Мінска з яго рухавасцю, то трэба сказаць, што «вельмі скоры маруднік». Вось шлю я табе даклад; у ім пішу, што друк заграніцаю ў тры разы танней — напэўна! Ды, глаўнае, што цяпер каб грошы — гібель можна надрукаваць—апарат наладжан добра. Кепска з перавозкаю — Рыга і Рэвель завалены таварамі, і месяцаў тры пройдзе, пакуль кніжкі дабяруцца да Беларусі. Гэта бяда — але без сіл паправіць. Толькі такоўскія справы і перашодзяць загранічнаму друкаванню. Ну, рашайце, пэўна, там. Я вельмі рад, што канчаю першую, хоць і нязначную, праграму. Хутка, прыблізна, буду ў Беларусі. Пара, нарэшце.**

**Дзякую шчыра за «Савецкую Беларусь». Прашу прысылаць часцей. Паведамі, ці акуратна атрымоўваеш ад мяне газеты? І не пашкадуй напісаць большае і падрабязнейшае пісьмо. Калі зборнік друкуецца, прымі гэты мае рэчы, калі ж не — прапусці іх у Мінск, у «Савецкую Беларусь».**

**Кланяйся ўсім.**

**Твой Зміцер.**

**18/IV-22 г.**

**P. S. Здымі копію дакладу г. Ігнатоўскаму або затрымай сабе арыгінал, а яму пашлі копію.**

**Твой Ц.**

[1] Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч (1881—1931)—беларускі гісторык і грамадскі дзеяч, акадэмік АН БССР і АН УССР.

[2] Грынберг З. Г. — У пачатку 20-х гг. — прадстаўнік Дзяржвыда за мяжой.

[3] Ільючонак Пётр Вікенцьевіч (1890—?) — у 1921 г. узначальваў беларускі аддзел Наркамасветы БССР.

[4] Стронгін — адзін з кіраўнікоў Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

[5] Некрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч (1883—1937) — мовазнаўца, старшыня Інбелкульта (1923 г.), потым акадэмік АН БССР.

[6] Скутак — вывад; вынік.

[7] Ладыжнікаў Іван Паўлавіч (1875—1945) — савецкі выдавецкі дзеяч, з 1921 г. працаваў у Берліне ў кнігавыдавецкім акцыянерным таварыстве «Кніга».

[8] Цвікевіч Іван Іванавіч — намеснік загадчыка Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

[9] Булат Сцяпан Герасімавіч (1894—1921) — беларускі дзяржаўны дзеяч, журналіст.

[10] Сабачка — прылада для апрацоўкі скуры.

[11] Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч (1900) — беларускі савецкі геолаг, акадэмік АН БССР, заслужаны дзеяч навукі БССР.

---

НАШ КАЛЯНДАР

# Незабыўная дабрыня

**30 кастрычніка спаўняецца 75 год з дня нараджэння вядомага літаратуразнаўцы Юльяна Пшыркова, аўтара цікавых даследаванняў пра творчасць Якуба Коласа. З гэтай нагоды друкуем успаміны заслужанага настаўніка БССР Апанаса Цыхуна з Гродна, які сустракаўся і сябраваў з вучоным.**

Калі я працаваў школьным інспектарам, мяне вельмі захапляла краязнаўчая работа. Наведваючы школы, бываючы ў вёсках, я запісваў народныя песні, тапанімічныя назвы, дыялектную лексіку, прыказкі, прымаўкі, трапныя выслоўі. Збіраў звесткі пра вядомых землякоў — пісьменнікаў, вучоных, у тым ліку і пра славутага вучонага-земляка, акадэміка Я. Ф. Карскага. На працягу 10 год карпатлівых пошукаў мне ўдалося сабраць багаты ілюстрацыйны і тэкставы матэрыял, на падставе якога я падрыхтаваў альбом «Я. Ф. Карскі. Жыццё і творчасць». З гэтай працай я звярнуўся ў рэдакцыйна-выдавецкі савет Акадэміі навук БССР, каб з ёю азнаёміліся і аказалі садзеянне ў надрукаванні.

Навуковым рэдактарам маёй працы быў прызначаны Юльян Сяргеевіч Пшыркоў. Неўзабаве я сустрэўся з гэтым цудоўным, сардэчным чалавекам. Ён заваражыў шчырасцю, ветлівасцю да мяне, вясковага настаўніка, які ўзяўся за даволі складаную працу.

Нягледзячы на сваю занятасць у АН БССР, на нялёгкую работу па рэдагаванні розных выданняў, у тым ліку і на грамадскіх пачатках, Юльян Сяргеевіч вельмі сумленна, можна сказаць, па-бацькоўску аднёсся і да маёй працы. Пад яго кіраўніцтвам рукапіс альбома перапрацоўваўся. Вучоны даваў мне каштоўныя парады, падказваў, дзе ўзяць той або іншы матэрыял, літаратуру. І ўсё гэта рабіў тактоўна, чула, як спрактыкаваны педагог, шчыры дарадца.

Успамінаю, раз надарылася мне наведаць сям'ю Пшырковых. Жылі яны ў Мінску па вуліцы Светлай, у доме, які нагадваў сялянскую хату. Каля дома быў сад. Сам Юльян Сяргеевіч яго пасадзіў, сам і даглядаў. Рабіў прышчэпкі добрых гатункаў умела, як спрактыкаваны садоўнік. Мне тады падумалася: гэты чалавек аднолькава тонка адчувае і шануе і прыроду, і роднае слова.

Я вельмі ўдзячны Юльяну Сяргеевічу Пшыркову за дапамогу, якую ён мне аказаў у падрыхтоўцы да выдання альбома «Я. Ф. Карскі. Жыццё і творчасць», хоць гэтая праца і да сённяшняга дня не надрукавана. Я часта ўспамінаю, колькі Юльян Сяргеевіч прыклаў старання, каб альбом атрымаўся цікавым. У асобе Юльяна Сяргеевіча я сустрэў чалавека чулай душы, высокай чалавечай культуры, зычлівага. Такія людзі не забываюцца. Імкліва ідзе час, а яны застаюцца назаўсёды з намі.

**Апанас ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік БССР.**

---

ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

# РАДАВОД

**Падарожжа ў Цімкавічы XVII—XVIII стагоддзяў**

ПЕРАНЯСЕМСЯ, чытач, на тры стагоддзі назад у Цімкавічы, што на Капыльшчыне. Зрабіць такую вандроўку дазваляе нам кніга «Інвентары магнацкіх уладанняў Беларусі XVII—XVIII стст. Уладанне Цімкавічы», якая выдадзена ў Мінску ў 1982 годзе выдавецтвам «Навука і тэхніка». Цяпер гэта вялікая вёска, а тады Цімкавічы лічыліся мястэчкам і побач з ім была аднайменная вёсачка (цяпер яна стала адной з вуліц гэтага паселішча).

У мястэчку Цімкавічы ў 1670 годзе было чатыры кварталы і чатыры вуліцы. Адзначу, што за 317 гадоў назвы некаторых вуліц не змяніліся. Як і ў 1670 годзе, і сёння ў Цімкавічах ёсць Капыльская і Слуцкая вуліцы.

Сярод жыхароў, якія на той час мелі пляцы і хаты на першым квартале Цімкавіч, мы бачым Якава Лушчыцкага. Хто такі Якаў Лушчыцкі? А гэта дзед у 6-ым ці 7-ым калене Івана Мікалаевіча Лушчыцкага, беларускага савецкага філосафа, члена-карэспандэнта АН БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР.

Пачакайце, запярэчыць чытач, філосаф Іван Мікалаевіч Лушчыцкі нарадзіўся не ў Цімкавічах, а ў вёсцы Агароднікі... Так, але ў 1670 годзе ў вёсцы Агароднікі Лушчыцкіх не было. Як сведчыць інвентар графства Цімкавічы, унук ці праўнук Якава Лушчыцкага перасяліўся з Цімкавіч у Агароднікі. У 1761 годзе ў вёсцы Агароднікі жылі ўжо Яська і Ян Лушчыцкія.

У 1670 годзе на левым баку Капыльскай вуліцы ў Цімкавічах мелі аседлыя пляцы Лаўрэн і Хведар Жыльчэні. Што гэта за людзі? А гэта далёкія продкі нашага паэта Уладзіміра Адамавіча Жылкі. Па інвентарах 1691 года іх прозвішчы ўжо пішуцца не Жыльчэня, а Жылка. Характэрна, што ў 1691 годзе Жылкаў у ліку жыхароў Цімкавічаў ужо няма, але за імі яшчэ значацца сенакосы гэтага паселішча. Значыць, недзе ў прамежку паміж 1670 і 1691 гадамі продкі Уладзіміра Жылкі перасяліліся з мястэчка ў вёску і такім чынам з мяшчан зрабіліся мужыкамі. У тыя часы такі пераход быў звычайнай з'явай, бо ў горадзе зямлі не хапала, а ў вёсках былі свабодныя валокі зямлі. Перайсці з невялікага гарадскога пляца на сельскую валоку (21 гектар зямлі) было выгадна таму, хто меў вялікую сям'ю.

На жаль, пакуль што ў нас апублікаваны інвентары толькі ўладанняў Смаргонь і Цімкавічы. Калі будуць апублікаваны інвентары Капыля, Слуцка і іншых уладанняў, то мы тады будзем лепш разбірацца ў радаводных некаторых вучоных і пісьменнікаў.

Напрыклад, у 1670 годзе ў Цімкаўскай воласці жыло каля двух дзесяткаў татарскіх сем'яў з прозвішчамі Войніч, Асновіч, Шулькевіч, Шчалновіч і іншымі. Пазней татары з Цімкаўскай воласці некуды перасяліліся. Але, відаць, яны перасяліліся недалёка, бо сёння ў Слуцку ёсць людзі з прозвішчамі Шчалновіч, Войніч... Яны цяпер пішуцца беларусамі.

Сярод цімкавіцкіх служылых людзей («землян») у 1670 годзе мы сустракаем продкаў нашага гісторыка Анатоля Пятровіча Грыцкевіча. Гэта былі Мікалай і Ян Грыцкевічы. У 1691 годзе гэтыя Грыцкевічы ў ліку цімкаўлян ужо не значацца. Відаць, тады яны перабраліся ў выбранцкія вёскі пад Слуцк (выбранцам давалі да 1,5 валокі зямлі).

У інвентары 1713 года вёскі Блеўчыцы, якая адносілася да графства Цімкавічы, на першым месцы значыцца Лявон Варывашэня, у якога быў адзін сын Якаў і два валы. Хто такі Лявон Варывашэня? А гэта продак вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча БССР Івана Дзяніскавіча Варвашэні (1904—1957), імем якога названа адна з вуліц у Мінску.

Праз адну хату ад Лявона Варывашэні ў 1713 годзе ў той жа вёсцы жыў Іван Варчэня, які меў чатырох сыноў і недзе 5 гектараў зямлі. Хто такі Іван Варчэня? А гэта продак вядомай нашай журналісткі Марыі Карпенкі (дзявочае яе прозвішча Варчэня). І сёння ў тых жа Блеўчыцах і ў суседніх вёсках не вывеліся людзі з прозвішчамі Варвашэня, Варчэня, Ваўністы, Лапотка і іншыя, якія значацца ў інвентарах XVII—XVIII стагоддзяў.

Кожны чалавек, продкі якога паходзяць з Цімкавіч і іх ваколіц, па інвентарах можа аднавіць сваю радаводную за 300—350 гадоў, бо інвентары з'яўляюцца, апрача ўсяго іншага, нашымі радаводнымі спісамі. На жаль, выданне інвентароў вядзецца марудна...

Захаваўся і берчак (нешта накшталт сціслага інвентара) Цімкавіч за 1622 год (365 гадоў назад). У Цімкавічах у 1622 годзе 1 валоку зямлі займаў цагельшчык, паўвалокі займаў півавар, паўвалокі займаў «бакалар» (настаўнік). Што цэглу выраблялі ў Цімкавічах 365 гадоў назад, гэта факт. Ва ўрочышчы Маладнік і сёння захаваліся ямы (глінішча), адкуль бралі матэрыял для цэглы. А той факт, што паўвалокі ў Цімкавічах належала бакалаўру, яскрава сведчыць, што ў той час у мястэчку была школа. Такім чынам, Цімкавіцкая сярэдняя школа імя Кузьмы Чорнага ў бягучым годзе мае права адзначыць сваё 365-годдзе.

У XVII—XVIII стагоддзях каля Цімкавіч на рацэ Мата працавала аж 5 вадзяных млыноў. Кузьма Чорны ў сваіх творах успамінае адзін з іх. Гэты вадзяны млын працаваў і ў першыя гады пасля Айчыннай вайны. Цяпер яго няма.

У 1647 годзе ў Цімкавічах быў пабудаваны драўляны касцёл. Згарэў у 1986 годзе. Гэта быў старэйшы будынак на Случчыне..

Толькі ў нашым стагоддзі Случчына (а Цімкавічы — гэта частка старадаўняй Случчыны) дала беларускай літаратуры некалькі дзесяткаў пісьменнікаў. Але, на жаль, бадай, ніхто з іх не адлюстраваў у сваіх творах жыццё нашага краю ў першай палавіне XIX і ў больш раннія часы. Выключэннем з'яўляецца толькі творчасць Язэпа Лявонавіча Дылы.

Трэба выдаваць інвентары і іншых мясцовасцей Беларусі, бо сваімі далёкімі продкамі цікавяцца ўсе культурныя людзі. А пакуль што многія з нас не вельмі далёка адышлі ад непісьменных, бо ведаем толькі дзеда ды прадзеда, а глыбей — цемень...

Даўно настаў час апублікаваць усе інвентары — гэта наша культурная спадчына.

**Рыгор РОДЧАНКА.**

---

**Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР глыбока спачувае ўпаўнаважанаму па арганізацыі выступленняў Ліпаю Пятру Міхайлавічу з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**




**Віктар ШНІП**

## Мэтр

Твой пройдзе час адчайны,
Цяпер ты — адкрыццё.
І станеш ты звычайным,
Як травы, як лісцё.
І сам жа не паверыш,
Што ўсё тваё — спадман,
Што быў ты вельмі шэрым,
Як восеньскі туман.
І ўсе твае пасады
Трымаў адзіны блат.
Даваў ты ўсім парады,
Народу быў ты «брат».
Такіх братоў хапае,
З душой у кашальку,
Што ў вочы заглядае
І цісне ўсім руку.
Твой пройдзе час адчайны,
Ацэнім адкрыцці.
І станеш ты звычайным
І мёртвым пры жыцці.

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Выдавалі «панку» Ганку за «рокера» Яна. Што спявалі на вяселлі? «Ой рана на Івана».

●

Можна лічыцца смелым, будучы толькі спрытным. Трэба адно бегчы паперадзе моды.

●

Адлежваўся, адседжваўся, адмоўчваўся, адкасваўся, адкручваўся, адплёўваўся, адхрышчваўся, аднекваўся, адважыўся...

●

Пустыня людзей, кажаш? А ці не заманьвае цябе нехта ў свой аазіс? (З надпісаў у караван-сараі).

●

Правялі эксперымент: чалавеку звычайнага росту ніжэйшыя за яго ўвесь час гаварылі, што ён высокі. Звычайны не вырас, а ніжэйшыя здрабнелі.

●

— Адкуль я? Ды са зборышча аслоў. О колькі там пустых гучала слоў у гонар непадробнага асла, што красаваўся на чале стала. — І ты, вядома, фальшу не сцярпеў? — Ды каб, а то таксама нешта пеў.

●

Я жонку слухаю і не заўважаю, яна мяне бачыць і не чуе. А не крыўдуем адно на аднае. Бо яна мяне чуе і не слухае, я яе заўважаю і не бачу. Нічога не зробіш, абое працуем у сферы паслуг.

●

Гамана дзецюкоў, звонкі ляск мацюкоў. Ці то мова без слоў ці то словы без мовы. О дарунак багоў, мацярынскае слова!

## ФРАЗЫ

Таленту дазволілі прабіць сабе дарогу, але ўбаку ад галоўнай магістралі.

●

Што б там ні гаварылі, а маўчаць усё-такі будуць.

●

Народжанага поўзаць і камень за пазухай акрыляе.

●

Калі падскокваеш вышэй галавы, трымай яе рукамі.

●

Там, дзе не ступала нага чалавека, знаходзяцца ўсе райскія куточкі.

**С. МЫРДЗІН.**

Будзьце заўсёды прамымі. Тады іншым будзе лягчэй вас абыходзіць.

●

Паразумнеў і стаў чырванець за сваю шэрасць.

●

Хораша смяецца той, чыя песенька ўжо спета.

●

Іншая ветлівасць — гэта добра адрэдагаваная грубасць.

●

Пакуль адзін сем разоў адмерае, дык другія сем разоў адрэжуць.

●

У яго было ўсё напісана на твары, але так непісьменна!

**М. ЗАСТОЛЬСКІ.**

## Дзівак-чалавек...





Мал. Н. ЛУГАВОЙ.

**Сяргей ДАВЫДАЎ**

●

Вершаваная наша форма
тым цудоўней, чым меней
корму
мае сёння фармальны
стан —
ведай ямб ды харэй — і
норма,
ды ахвота пралезці ў клан!
Як заўжды, адчыніўшы
дзверы,
выпраўляю ў думцы брак:
грэк не бачыў, зваўся
Гамерам
і валодаў адным памерам,
і хапала яму. Вось так...

### НЕЗДАРМА

Нездарма
(пабывала ўжо замужам
двойчы)
у паэта спытала асоба
аднойчы,
з чым рыфмуецца слова
«задуха».
— Рыфма ў вашым
выпадку — «свякруха».

●

Анікога — згодзен —
павучаць
Ні за што ў паэзіі няварта.
Ціхі ўздых — і ментар
распачаў...
Усплёск — і засцярога ўраз
на варце.

Погляд шчыры, радасць
альбо жаль,
глыб глыбінь —
у завітушках слова...
Ты свайму кату чытай
мараль,
павучыся ў дзедухны
Крылова!

Пераклаў з рускай
Юрка ГОЛУБ.

**Марат БАСКІН**

## Даклад

— Вось, даклад вам падрыхтаваў, — зайшоў у кабінет Сямёна Пятровіча рэферэнт.

«Бач ты, як апрануўся сёння. Нават гальштук начапіў. І што гэта за свята ў яго?» — падумаў Сямён Пятровіч і лагодна спытаў:

— З чым віншаваць?

— Даклад добры атрымаўся, — задаволена сказаў Чубук і працягнуў шэфу пульхны стос паперы.

— Улічыў час, самакрытыку навёў? — усміхнуўся Сямён Пятровіч.

— Як вы казалі, усё зрабіў, — кіўнуў Лявон.

— Ну і ў чым я каюся? — пацікавіўся Сямён Пятровіч, пыхнуўшы цыгарэтай. — Ёсць у чым?

— Ёсць, — паправіў гальштук рэферэнт. — Перачытваць усё ці самі пачытаеце?

— Кажы! — хмыкнуў шэф.

— Шмат *чаго вы абяцалі, як у крэсла гэтае садзіліся,* ды нічога не зрабілі: у першы ж дзень усё забылі. Толькі пра свае справы дбалі, гэта вы не забывалі. Роднага пляменніка начальнікам прызначылі, а ён, як быў, прабачце, дубам, так ім і застаўся. Сястру дырэктаркай зрабілі, хоць шмат было на гэту пасаду больш дбайных. А дачу вам трэстаўскія цеслі за прыгожыя вочы збудавалі. Не дача, а казачны церамок. А ў сярэдзінеаднымі падарункамі абстаўлены. Хто што нёс, усё пералічыў я, нікога не абмінуў. Ад Сцяпана Рыгоравіча спальны гарнітур, ад Яўгена Сымонавіча — дыван... Тры старонкі даклада на пералік пайшло...

— Бач ты, завёўся, — не вытрымаў Сямён Пятровіч. — Разбубніўся, бы поп. Забыўся, з кім размаўляеш? Што гэта ты плявузгаеш?

— Вы ж самі казалі, каб я ў дакладзе самакрытыкі не цураўся. Даводзілі, што зараз без гэтага нельга, — пацікнуў плячыма Лявон. — Я, дарэчы, яшчэ ў вас пытаўся, пра што скажам, а пра што змоўчым.

— Вось-вось, — буркнуў шэф. — Ведаеш, што рабіць, а што робіш?

— Дык жа вы мне тады сказалі, каб я сам сёе-тое самакрытычнае адшукаў, — усміхнуўся рэферэнт. — Вось я і адшукаў.

— Што адшукаў?! — грымнуў шэф.

— Усё! Нічога не ўпусціў, — хмыкнуў рэферэнт. — Усё ў дакладзе ёсць. І да кожнага фанціка дакуменцік, як вы заўсёды патрабуеце.

— Ды ты што? — войкнуў Сямён Пятровіч. — Не даклад, а справа крымінальная. Мяне ж пасля гэтага і гадзіну на месцы трымаць нельга. Галоснасць галоснасцю, ды не настолькі ж!

—Менавіта настолькі! — не згадзіўся з шэфам рэферэнт. — Пакуль рыхтаваў вам даклад, зразумеў, што не на сваім месцы седзіцё. *Завысокая для вас пасада!*

— Здыму! — узвіўся да столі Сямён Пятровіч. — Здыму! — закрычаў ён, плюхнуўшыся назад у крэсла, і... прачнуўся.

— Авохці! І прысніцца ж такое! — Сямён Пятровіч выцер кропелькі поту з ілба і лагодна паглядзеў на папку з дакладам. — Добра піша, шэльма-рэферэнт! Аж на сон пацягнула. Гэтак у яго лагодна ды складна. І самакрытыка ёсць, а быццам няма яе... Хоць нага ў балоце, ды стаіць у боце! — ён задаволена падсунуў да сябе папку і дадаў. — Трэба рэферэнту прэмію даць! Каб сон яваю не стаў!..

Ён сплюнуў тры разы і паклікаў сакратарку.

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**5 ЛІСТАПАДА** — урачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У вечары прымуць удзел *вядомыя беларускія пісь*меннікі, адбудзецца канцэрт.

**6 ЛІСТАПАДА** — сустрэча з беларускімі мультыплікатарамі. Запрашаюцца школьнікі розных узростаў. Пачатак у 11 гадзін.

**10 і 13 ЛІСТАПАДА** — «Вечар новай кнігі». 10-га прысутныя пазнаёмяцца з кнігай вершаў Алеся Емяльянава «На падкове дарог», а 13-га — з раманам Леаніда Левановіча «Шчыглы». У вечарах бяруць удзел аўтары.

**16 ЛІСТАПАДА** — вечар з цыкла «Музычныя сустрэчы». Выступае духавы квінтэт Белдзяржфілармоніі. Гучыць класічная руская і заходнееўрапейская музыка.

**20 ЛІСТАПАДА** — творчая сустрэча з мастаком, рэжысёрам Уладзімірам Матросавым. У праграме вечара: урыўкі са спектакляў «Выйду з сэрцам, як з паходняй», «Лісткі календара», «У родным краю ёсць крыніца жывой вады (Максім Багдановіч і час)» і інш., а таксама ўрыўкі з кінафільмаў.

**24 ЛІСТАПАДА** — творчы вечар вядомага беларускага гумарыста, сатырыка Міхася Скрыпкі.

**25 ЛІСТАПАДА** — вечар «Новыя старонкі прозы». Адбудзецца знаёмства з новымі творамі беларускіх пісьменнікаў. Прымаюць удзел аўтары кніг.

**26 ЛІСТАПАДА** — чарговыя заняткі Народнага вячэрняга універсітэта *літаратуры*.

**27 ЛІСТАПАДА** — вечар з цыкла «Чалавек і прырода», у якім прымуць удзел пісьменнікі і журналісты, вучоныя і прадстаўнікі Таварыства аховы прыроды, кінематаграфісты, грамадскасць.

Пачатак вечароў у 19 гадзін. Уваход па запрашальных білетах.

Даведкі па тэлефонах: 36-95-73, 36-09-09.

## АБ'ЯВЫ

**Беларуская ордэна Дружбы народаў дзяржаўная кансерваторыя імя А. В. Луначарскага**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС НА ЗАМЯШЧЭННЕ ВАКАНТНАЙ ПАСАДЫ ПРАФЕСАРСКА-ВЫКЛАДЧЫЦКАГА СКЛАДУ (ДЛЯ ТЫХ, ХТО МАЕ МІНСКУЮ ПРАПІСКУ)**

1. Выканаўчы факультэт.

Кафедра аркестравага дырыжыравання.

Дацэнт — 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы. Дакументы згодна палажэнню аб конкурсе накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл. 22-49-42.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 02318

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.